# Ніва

## БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 48 (770) БЕЛАСТОК 29 ЛІСТАПАДА 1970 г. ЦАНА 60 гр.

## У НАЦЫЯНАЛЬНАЙ КАМІСІІ

6 лістапада г. г. адбылося чарговае пасяджэнне Нацыянальнай камісіі Ваяводскага камітэта Польскай аб'яднанай рабочай партыі ў Беластоку. На пасяджэнні была абмеркавана праграма святкавання 15-годдзя БГКТ і праект фестывалю аматарскіх калектываў нацыянальных меншасцей.

З інфармацыяй аб планаваных мерапрыемствах, звязаных з юбілеем нашай арганізацыі, выступіў сакратар ГП БГКТ Янка Зенюк. Праграма святкавання 15-годдзя БГКТ, выпрацаваная вясенні пленумам нашага таварыства (была апублікавана ў «Ніве») атрымала поўную падтрымку з боку Нацыянальнай камісіі. Члены камісіі падкрэслівалі, што праграма шырокая і добра апрацавана.

Праект арганізацыі фестывалю прадставіў старшыня Нацыянальнай камісіі — загадчык аддзела культуры ПВРН у Беластоку — Збігнеў Дамброўскі. Праект цікавы. Прадбачвае ён, між іншым, розныя формы мастацкай самадзейнасці, стварае шырокія магчымасці папулярызацыі аматарскай творчасці нацыянальных меншасцей, дае ёй высокі ранг. Фестываль прадбачваецца як агульнапольскае мерапрыемства. Удзельнічаць у ім могуць усе нацыянальныя таварыствы, якія дзейнічаюць у Польшчы. Першы такі фестываль плануецца на 1972 год (у 1971 годзе праходзілі б эліміпацыі ў паасобных таварыствах). Падобныя фестывалі адбываліся б пастянна кожныя два гады.

Камісія адобрыла праект. Ажыццяўленне яго прычыніцца да далейшага развіцця аматарскага руху ў асяроддзі нацыянальных меншасцей, спапулярызуе яго ў польскім грамадстве і будзе спрыяць лепшаму ўзаемнаму знаёмству. (рл)



*Саламяны кош маркі сялян Бельшчыны прыдасца ў кожнай хаце. Папулярны яны не толькі ў нашай краіне, але і за мяжою.*

*Фота Цаф — Сянько*

## БГКТ хроніка

■ Пленум сакольскага аддзела БГКТ 11-га лістапада падсумаваў дзейнасць аддзела за 10 месяцаў гэтага года і шмат увагі прысвяціў развіццю аматарскага руху. Удзельнікі пленума прыхіліліся да просьбы Расціслава Мазалеўскага аб звальненні яго ад абавязкаў старшыні аддзела ў сувязі са слабым яго здароўем і пераходам на іншую працу. У гэтым пасяджэнні прынялі ўдзел старшыня ГП Міхась Хмялеўскі і кіраўнік культурна-асветнага аддзела Сяргей Лукашук.

■ Старшыня і сакратар ГП Міхась Хмялеўскі і Янка Зенюк 12 лістапада ў Сямяцічах сустрэліся з першым сакратаром павятовага камітэта ПАРП Мікалаем Карпюком і старшынёй павятовай рады нарадовай Уладзімірам Іванюком. Абмеркавалі яны перспектывы дзейнасці БГКТ у Сямяціцкім павеце.

■ 12-га лістапада прэзідыум гайнаўскага аддзела ацаніў вынікі святкавання 100-ай гадавіны з дня нараджэння У. І. Леніна і звярнуў увагу на некаторыя недахопы ў дзейнасці аддзела. Удзельнікамі пасяджэння прэзідыума былі таксама старшыня і сакратар ГП Міхась Хмялеўскі і Янка Зенюк.

■ Пленум гарадскога аддзела БГКТ 13-га лістапада прысвечаны быў задачам у развіцці аматарскага руху і культурна-асветнай дзейнасці. Даклад на гэтую тэму чытала сакратар аддзела Зося Стаськевіч. Пленум выбраў новага старшыню аддзела Івана Стрышко. Галоўнае праўленне на пленуме рэпрэзентавала Ліда Антанюк — кіраўнік арганізацыйнага аддзела ГП.

■ 14-га лістапада гарадскі аддзел у Беластоку арганізаваў акадэмію з нагоды 53-яй гадавіны Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі. З дакладам на гэтую тэму выступіў старшыня ГП Міхась Хмялеўскі. У мастацкай частцы акадэміі выступілі: вакальна-інструментальны калектыў „Гайдучкі" — Беластоцкай жыллёвай спулдзельні — і ўдзельнікі курсу акардэаністаў, які існуе пры гарадскім аддзеле.

■ 15-га лістапада гданьскі аддзел БГКТ арганізаваў вечарыну, прысвечаную 53-яй гадавіне Вялікага Кастрычніка. У ёй прыняў удзел сакратар ГП Янка Зенюк і кіраўнік культурна-асветнага аддзела Сяргей Лукашук. (мх)

**НЕ ТОЛЬКІ ДРАМГУРТКІ**




Калі бываю ў старынных Сямяцічах, люблю зайсці да Зосі Пянтковай у павятовы дом культуры.

Сямяціцкі мастацкі рух многа ўдзячны непадкупнай волі Зосі і яе невычэрпнай энергіі. Калі па сямяціцкіх вёсках чуем гаворку пра апеку над мастацкім рухам з боку павятовых культурных улад, то найперш называюць яе: «Пянткову добра знаем, бывае у нас. Яна ніколі не адмовіць ў дапамозе».

А Зося мае амбіцыі, каб культурна-асветнай працы ствараць узоры трывалыя, каб дзякуючы найбольш розным і найбольш сучасным формам у гэтай працы будзіць творчыя імкненні да ведаў. Сама вучыцца ўсё жыццё. Спецыялізуючыся ў драматургіі, прысвоіла багатую мастацкую літаратуру — польскую і перакладную, каб спажыткоўваць яе ў грамадскім культурным руху.

Галоўнае, што цяпер прапагандуе Зося на тэрыторыі свайго павета, — гэта асветны і пазнавальны характар культурнай працы. Формы яе: мантажы паэзіі і прозы, ці мешаныя тэатры паэзіі, рознага роду дэкламатарскія гурткі. Звязвае ўсё гэта з агульнымі падзеямі і патрэбамі. Родная зямля і гераічная яе гісторыя — так коратка назваць хачу праблематыку ўласнаручна апрацаваных Зосяю матэрыялаў для мастацкага руху.

Зося ведае, што мяне цікавіць, як такая ідэя рэалізуецца на вёсках з беларускім насельніцтвам, дзе дагэтуль непадзельна панавала форма драматычных гурткоў. І адказвае: «Тут яшчэ ўтрымліваюцца драмгурткі, але мы стараемся ўводзіць і сюды як найбольш добрых мантажоў. Не хапае мне толькі кантактаў з Беларускім таварыствам, не хапае мне іхняй дапамогі і супрацоўніцтва ў гэтай спецыфічнай працы». Як дайсці да літаратурнага матэрыялу на беларускай мове, дзе яго шукаць?

«Вельмі кепска ў нас з рэпертуарам на беларускай мове. Ці ёсць нейкая мажлівасць, Вера, сістэматычна атрымліваць яго? Я не пра п'есы думаю, а пра мантажы. Я сустрэлася, напрыклад, з перакладамі беларускай паэзіі на польскую мову Ежы Літвінюка. Вельмі падабаюцца мне гэтыя вершы. У перакладзе нават захавалі спеўны характар беларускай мовы. Мне патрэбен кантакт з гэтым паэтам. Дай мне адрасы і вашых беластоцкіх паэтаў, я чула пра Баршчэўскага...»

Анахранічнай традыцыяй утрымліваецца ў Сямяціцкім павеце падзел павятовага аддзела БГКТ ад сядзібы павета. Сядзібай аддзела з'яўляюцца Мілейчыцы. Аб кантактах і супрацоўніцтве з культурна-асветнымі ўладамі павета не можа быць у гэтай сітуацыі мовы. Адасобленасць дзеячоў БГКТ адчуваецца. Таксама як адчуваецца іх неангажаванне ва ўсе новыя плыні культурна-асветнай працы і культурнай палітыкі павета.

Зося Пентка, маючы цяжкасці з беларускай мовай, знайшла Мікалая Жабінскага, свайго перакладчыка, маладзёжнага дзеяча родам з Бацікаў. Мікалай Жабінскі ахвотны да працы і дапамогі, а да таго хлапец амбітны: «Калі што буду рабіць у Баціках, то толькі паэтычныя мантажы, бо п'есу

Працяг на стар. 4

**■ МОЙ РОДНЫ КУТ ■**



*Беластоцкая Дуброва.* *Фота Цаф — Сянько*

# Падзеі ◇ Здарэнні ◇ Факты ◇ Каментарыі ◇ Вясткі



## СВЕТ

### «ЛУНАХОД - 1»

17 лістапада 1970 года аўтаматычная станцыя «Месяц - 17» зрабіла мяккую пасадку на паверхню Месяца ў раёне мора Дажджоў.

На пасадачнай ступені станцыі ўстаноўлен месяцавы самаходны апарат «Лунаход - 1».

Упершыню ў гісторыі касманаўтыкі на Месяц дастаўлен і пачаў навуковыя даследаванні аўтаматычны месяцавы самаходны апарат, кіруемы з Зямлі.

Пасля пасадкі, праверкі функцыяніравання бартавых сістэм станцыі і агляду месяцавай паверхні па камандзе з Зямлі са станцыі «Месяц - 17» па спецыяльнаму трапу сышоў аўтаматычны апарат «Лунаход - 1». Перамяшчэнне па Месяцу самаходнага апарата ажыццяўляецца з дапамогай васьміколавага шасі.

На «Лунаход - 1» і пасадачнай ступені ўстаноўлены флагі і вымпелы з малюнкамі Дзяржаўнага герба Савецкага Саюза і барэльефам У. І. Леніна.

У адпаведнасці з савецка-французскім пагадненнем аб супрацоўніцтве ў вывучэнні і асваенні касмічнай прасторы ў мірных мэтах на борце лунахода ўстаноўлен французскі адбівальнік для лазернай лакацыі Месяца.

Кіраванне рухам «Лунахода - 1» праводзіцца з Цэнтра далёкай касмічнай сувязі з выкарыстаннем тэлевізійнай інфармацыі аб становішчы апарата і характары рэльефу навакольнай мясцовай паверхні.

Калі аддаем да друку гэты матэрыял, аўтаматычны даследчык Месяца працягвае работу.

### БЕЛАЯ КНІГА

У Лондане апублікавана «Белая кніга па пытаннях абароны» — пералік мер, якія лягуць у аснову будучых ваенных бюджэтаў Англіі і ваеннай палітыкі ўрада.

«Белая кніга» прадугледжвае павелічэнне «ваеннага ўкладу Англіі ў НАТО» і шэраг іншых мер па раскручванню ваеннай машыны Англіі.

Ваенныя расходы ў наступным фінансавым годзе дасягнуць рэкордна высокага ўзроўню — 2 300 мільёнаў фунтаў стэрлінгаў.

### ВАЖНАЕ РАШЭННЕ

Першы камітэт Генеральнай Асамблеі ААН (па палітычных пытаннях і пытаннях бяспекі) абсалютнай большасцю галасоў прыняў рэзалюцыю, заклікаcную адыграць важную ролю ў стрымліванні гонкі ўзбраенняў.

91 галасам супраць 2 пры 6, якія ўстрымаліся, камітэт зацвердзіў праект рэзалюцыі 37 дзяржаў, што адабрае Дагавор аб забароне размяшчэння на дне мораў і акіянаў і ў яго нетрах ядзернай зброі і іншых відаў зброі масавага знішчэння.

Новы дагавор, адобраны Першым камітэтам, з'яўляецца важным крокам на шляху збаўлення чалавецтва ад небяспекі ядзернай катастрофы. (ак)



## БССР

### ПЛЕНУМ ЦК КПБ

17 лістапада адбыўся пленум Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Беларусі.

Пленум разгледзеў наступныя пытанні:

1. Аб скліканні чарговага XXVII з'езда Кампартыі Беларусі.
2. Аб рабоце партыйных арганізацый рэспублікі па далейшаму паляпшэнню марксісцка-ленінскай адукацыі камуністаў і камсамольцаў.

Пленум пастанавіў склікаць чарговы XXVII з'езд Камуністычнай партыі Беларусі 18 лютага 1971 года.

### ЮБІЛЕЙ А. МАКАЁНКА

Споўнілася 50 гадоў вядомаму беларускаму драматургу-камедыёграфу Андрэю Макаёнку. На многіх сцэнах паспяхова ішлі яго п'есы *«Выбачайце, калі ласка!»* і *«Лявоніха на арбіце»*, па сцэнарыю А. Макаёнка быў пастаўлены фільм *«Шчасце трэба берагчы»*. Цяпер юбіляр з'яўляецца галоўным рэдактарам літаратурна-мастацкага часопіса *«Нёман»*.

З поўднем веку А. Макаёнка сардэчна віншавалі сябры-пісьменнікі.

### ВЕРШЫ С. Р. ДАБРАВОЛЬСКАГА ПА-БЕЛАРУСКУ

З кожным годам расшыраюцца літаратурныя сувязі Беларусі. Падпісана вось да друку кніга вершаў польскага паэта Станіслава Рышарда Дабравольскага — *«Хлеб і сонца»*. Яе пераклалі Максім Танк, Піліп Пестрак, Ніл Гілевіч, Алег Лойка і іншыя беларускія паэты.

### ФІЛЬМ ПРА СКАРЫНУ

*«Я, Францыск Скарына...»* — карціна пра выдатнага беларускага вучонага, філосафа, медыка, аб яго складаным, поўным выпрабаванняў жыцці. Гэта таксама карціна аб часе, калі ў многіх краінах гарэлі кастры інквізіцыі. Яна пастаўлена па раману і сцэнарыю Міколы Садковіча рэжысёрам Б. Сцяпанавым.

### РАЗАМ З СУСЕДЗЯМІ

Кобрынская перасоўная механізаваная калона прыступіла да ачысткі рэчышча пагранічнай ракі заходні Буг на ўчастку Брэст — Навасёлкі. Работы вядуцца па дагаворанасці паміж адпаведнымі арганізацыямі Польшчы і СССР. Праект упарадкавання ракі распрацаваны інстытутам «Белгіп-праводгас». Прадугледжваецца на працягу амаль 60 кіламетраў ачысціць Буг ад патануўшых дрэў, паглыбіць рэчышча, умацаваць берагі.

### ТКАНІНА «КВЕТКА»

Вышэйшая дзяржаўная ацэнка — *Знак якасці* — прысуджана чысташарсцяной тканіне для сукенак пад назвай «Кветка», якую выпускае Мінскі камвольны камбінат.

«Кветка» атрымала такую выдатную атэстацыю першай сярод тканін, якія выпускаюцца тэкстыльнымі прадпрыемствамі Беларусі. (вр)



## ПОЛЬШЧА

### ДАГАВОР

18 лістапада ў абед у палацыку Міністэрства замежных спраў у Варшаве наступіла падпісанне дагавору аб асновах нармалізацыі суадносін паміж Польскай Народнай Рэспублікай і Федэратыўнай Рэспублікай Германіі. Дагавор падпісалі міністры замежных спраў абедзвюх краін — Стэфан Ендрыхоўскі і Вальтэр Шэль. Падчас падпісання міністры С. Ендрыхоўскі і В. Шэль выступілі з прамовамі. Міністр С. Ендрыхоўскі сказаў:

«У перакананні польскага ўраду дагавор гэты стварае трывалую аснову нармалізацыі суадносін паміж абедзвюма дзяржавамі. Замыкаючы мінулае, адкрые ён новую паспяховую і плённую для абодвух бакоў эру суадносін паміж абедзвюма дзяржавамі і грамадствамі. Адначасова дагавор з'яўляецца ўкладам абедзвюх нашых дзяржаў у справу ўмацавання бяспекі і міру ў Еўропе, будзе ён спрыяць нармалізацыі еўрапейскіх суадносін».

### ДЗЕНЬ НАСТАЎНІКА

Напярэдадні свята настаўніка ў Бельведэры адбылося адзначэнне найбольш заслужаных настаўнікаў. Падчас урачыстасці з прамоваю выступіў I сакратар ЦК партыі тав. У. Гамулка. Перадаў ён сардэчныя віншаванні і пажаданні для ўсіх настаўнікаў і выхаваўцаў краіны. Гаворачы аб ролі настаўнікаў, напомніў, што ў рознага тыпу школах ва ўсёй краіне вучыцца каля 7 мільёнаў 300 тысяч дзяцей і моладзі. Без вялікага ўкладу настаўніка ў дасягненні Народнай Польшчы не былі б магчымымі нашыя поспехі ў розных галінах нашага гаспадарчага, грамадскага і палітычнага жыцця. Жыццё аднак не стаіць на месцы і ставіць перад настаўнікамі штораз большыя заданні. Асноўнае нашае заданне зараз — гэта паспець за прагрэсам. «Не можа народ, — сказаў тав. У. Гамулка, — асабліва польскі народ, які шмат гадоў заставаўся ззаду, не можа ён не паспяваць. За адсталасць трэба потым плаціць вельмі высокаю цаною. Гэта вельмі важная справа, павінны яе разумець перш за ўсё выхаваўцы, а таксама нельга аб іх забываць кіраўнікам дзяржавы і партыі, якая выконвае ў нашай краіне вядучую ролю і на якой спачывае асаблівая адказнасць».

### ЛІГА ЖАНЧЫН

18 гэтага месяца закончыліся ў Варшаве 2-дзённыя абрады V агульнакраёвага з'езда Лігі жанчын. Прыняло ў ім удзел каля 400 дэлегатак, якія рэпрэзентавалі каля 400 тысяч членаў Лігі. З'езд прыняў пастанову, акрэсліваючую галоўныя напрамкі працы гэтай арганізацыі на бліжэйшыя гады. Выбрана новае праўленне Лігі жанчын, старшынёй якога засталася надалей Мар'я Мільчарэк. З'езд прыняў ліст да I сакратара ЦК партыі — Уладзіслава Гамулкі. (п)



## ВАЯВОДСТВА

### ДЗЕНЬ НАСТАЎНІКА

Сёлета ваяводскія ўрачыстасці ў сувязі з Днём настаўніка адбываліся ў Моньках. На канферэнцыі прысутнічалі прадстаўнікі партыйных і дзяржаўных улад, прадстаўнікі палітычных стронніцтваў, маладзёжных арганізацый, лепшыя настаўнікі Беласточчыны. 160 настаўнікаў нашага ваяводства атрымала дзяржаўныя ўзнагароды.

У гонар Дня настаўніка адбылося ўрачыстае адкрыццё новай школы ў Чарнастоку (Манецкі павет), пабудаванай грамадскім чынам.

У гэты ж дзень у Беластоку, у тэатры імя Вянгеркі, адбылася сустрэча лепшых настаўнікаў нашага горада з уладамі і грамадствам.

### ВЫКАНАЛІ АБАВЯЗАЦЕЛЬСТВЫ

На тэкстыльным камбінаце «Фасты» адбылася нарада актыву беластоцкіх фабрык, прысвечаная выкананню прынятых на сябе абавязацельстваў у гонар 25-годдзя звароту да Айчыны Заходніх і Паўночных зямель і 100-годдзя з дня нараджэння У. І. Леніна.

Абавязацельствы прынялі на сябе 158 тысяч рабочых на 935 прадпрыемствах. Агульная вартасць абавязацельстваў склала суму больш 327 мільёнаў злотых. Большасць прадпрыемстваў ужо (раней вызначанага тэрміну), перавыканала ўзятыя на сябе абавязацельствы.

### ЛЕКТАРЫ З ГДР

Па запрашэнню Ваяводскага камітэта Фронту адзінства народа ў Беласток прыехалі два лектары з ГДР — Э. Бондзін і Г. Гэербах. Госці з ГДР сустрэліся з ваяводскім актывам ЗМС, а таксама з моладдзю ў Голдапе, Дуброве, Ружанастоку, Супраслі, Бельску і Высокамазавецку.

### ДЭКАДА КНІЖКІ

На Беласточчыне, як і па ўсёй краіне, праходзіць дэкада кніжкі пад лозунгам «Чалавек - свет - палітыка».

Сёлета шырока папулярызуецца грамадска-палітычная і гаспадарчая літаратура, асабліва сярод школьнай моладзі. Ад 20 лістапада ў Музеі рэвалюцыйнага руху адкрыта выстаўка выдавецтваў МОН, шэраг выставак цікавейшых кніжак можна ўбачыць у бібліятэках, клубах і школах. Арганізуюцца цікавыя сустрэчы з вядомымі пісьменнікамі.

### I МЕСЦА Ў ПОЛЬШЧЫ

Аўгустоўская тытунёвая фабрыка ўжо другі раз заняла першае месца ў Польшчы па выкананню плана. Такой высокай пазіцыі аўгустоўскае прадпрыемства дабілася дзякуючы масавасці ўнутрыфабрычнага спаборніцтва і добрай падрыхтоўцы да сезона сваёй тэхнічнай базы. (яч)

**ГП БГКТ выражае глыбокае спачуванне кіраўніку эстрады «Лявоніха» Янку Крупу з прычыны смерці бацькі.**





**NIEDZIELA 29.XI.**

8.15 TV Kurs Rolniczy: „Intensywna produkcja młodego bydła rzeźnego". 8.50 „Przypominamy, radzimy". 9.00 Dla młodych widzów: TV Klub Śmiałych — „Wielka podróż" cz. IV. 9.45 Dla młodych widzów: „Andrzejki". 10.30 „Nowy szeryf" — film („Bonanza"). 11.30 „W świecie sztuki" (Wilno). 12.00 Międzynarodowe Zawody Gimnastyki Artystycznej o Puchar Interwizji (Moskwa). 13.15 Dziennik. 13.25 „Legnica cantat" („Wizerunki miast"). 14.10 Przemiany. 14.40 PKF. 14.50 Teatrzyk dla przedszkolaków: M. Terlikowska — „Konik na biegunach". 15.30 „W obiektywie". 16.00 „Szlakami zabytków". 16.30 „Piosenka dla Ciebie". 17.30 Teatr Niedzielny: „Powrót". 18,30 „Brzezina" — program dyskusyjny w młodzieżowym klubie o filmie A. Wajdy. 19.05 „Piękna kraina" — film jugosł. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Melodie Wielkiego Ekranu" (piosenki francuskie). 20.55 „Trzy godziny miłości" — film fab. jugosł. 22.15 Magazyn sportowy.

**PONIEDZIAŁEK 30.XI.**

15.20 i 22.50 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Fizyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Dla dzieci: „Zwierzyniec". 17.30 „Echo stadionu". 17.55 „Spacerkiem po kinach". 18.25 Magazyn Postępu Technicznego. 19.00 „Osada w tajdze" — film dok. radz. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr TV: J. Krzysztoń — „Panna Radosna". 21.25 „Miasta o sobie" — program dok. 21.55 „Jazz Jamboree". 22.30 Dziennik.

**WTOREK 1.XII.**

9.55 Dla szkół: (kl. II lic.) Język polski — J. Słowacki „Kordian". 10.30 „Rzeka posępna" — film fab. radz. odc. IV. 11.45 Przerwa. 12.45 i 13.55 Przysposobienie Rolnicze: „Prawidłowy wychów cieląt". 14.25 Przerwa. 15.20 i 22.50 Politechnika TV I roku. Matematyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 TV Ekran Młodych. 18.20 „Węglowy port" — rep. („Morskie spotkania"). 18.50 Spis powszechny 1970. 19.00 „Gdańska sztuka kuźnicza" — film pol. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Rzeka posępna" — film fab. radz. odc. IV. 21.20 „Kontakty". 21.50 „Piosenki z Festiwalu w Splicie" — film jug. 22.30 Dziennik.

**ŚRODA 2.XII.**

10.00 „Babie lato jednego z Forsytów" — film tv ang. („Saga rodu Forsytów"). 10.55 Dla szkół: (kl. VII) Fizyka — „Masa a ciężar". 11.25 Przerwa. 11.55 Dla szkół: (kl. VIII) Chemia — „Węglowodany". 12.25 Przerwa. 12.45 „Wybieramy zawód". 13.05 Przerwa. 15.20 i 23.00 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla młodych widzów: „Latający Holender" — poławiacz ciekawostek morskich". 17.15 Magazyn ITP. 17.30 „Duże sprawy małych gospodarstw". 18.00 Film. 18.30 Wszechnica TV: „Obywatelka 02" („Sztuka liczenia"). 19.00 TV Kurier Warszawski. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Babie lato jednego z Forsytów" — film tv ang. („Saga rodu Forsytów"). 20.55 „Światowid". 21.25 PKF. 21.35 „Od melodii do melodii" — program TV Berlin. 22.40 Dziennik.

**CZWARTEK 3.XII.**

8.15 Matematyka w szkole: „Równoległość w przestrzeni trójwymiarowej" — wariant II. 8.45 Przerwa. 9.00 Dla szkół: (kl. II lic.) Język polski „Mickiewicz, Krasiński, Słowacki". 9.30 Przerwa. 9.55 Dla szkół: (kl. V—VI) Język polski — „Nasz dzień powszedni". 10.25 Przerwa 10.55 Dla szkół: (kl. I lic.) Język polski — „Jan Kochanowski". 11.25 Przerwa. 12.45 i 13.30 Mechanizacja Rolnictwa: „Przygotowanie ciągnika do pracy" cz. I i II. 14.00 Przerwa. 15.20 i 22.45 Politechnika TV I roku. Chemia. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla młodych widzów: „Ekran z bratkiem". 17.45 Dla młodych widzów: „Zrób to sam". 18.00 „Ludzie z Zofiówki". 18.25 „Giełda piosenki". 18.55 „Przypominamy, radzimy". 19.00 TV Kurier Kielecki. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr Kobra: Fr. Durbridge — „Melissa" odc. I. 21.15. J. S. Bach — „Fuga" — program muzyczny. 21.45 „Refleksje". 22.15 „Lektury współczesne" (Teatr wyobraźni). 22.25 Dziennik.

**PIĄTEK 4.XII.**

9.00 Dla szkół: (kl. VII) Zajęcia techniczne — „Lampki choinkowe". 9.30 „Złodziej brzoskwiń" — film. fab. bułg. 10.55 „Wytchnienie" — film tv franc. („Szczęście małżeńskie"). 11.20 Przerwa. 15.20 i 23.30 Politechnika TV I roku. Matematyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci: „Pora na Telesfora". 17.35 „Nie tylko dla Pań". 18.00 „Ziarno pokoju" — program dokument. 18.30 „Gramy o telewizor" — teleturniej. 18.50 Spis powszechny 1970. 19.00 TV Kurier Mazowiecki. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 „Wytchnienie" — film tv franc. („Szczęście małżeńskie"). 20.30 „Kraj". 21.10 „Fidelio" — opera L. van Beethovena. 23.10 Dziennik.

**SOBOTA 5.XII.**

9.10 „Życie zaczyna się o 8-ej" — film fab. NRF. 10.55 Dla szkół: (kl. IV lic.) Biologia — „Genetyka a praktyka". 11.25 Przerwa 11.55 Dla szkół: (kl. VII) Zoologia — „Owady". 12.25 Przerwa. 15.15 Program dnia. 15.20 TV Kurs Rolniczy: „Jak uzyskać wysoką mleczność krów". 15.55 Program tygodnia. 16.15 „Oferty". 16.30 Dziennik. 16.40 Dla młodych widzów: „Zainteresowania nastolatków" — film węg. 17.05 „Spotkania z przyrodą". 17.30 Międzynarodowy turniej w piłce ręcznej: ZSRR—CSRS i Norwegia—Polska. 18.40 „Pegaz". 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.20 „Barburka" — program estradowy. 21.30 Dziennik. 21.40 „Życie zaczyna się o 8-ej" — film fab. NRF. 23.20 „Rytmy Ameryki Łacińskiej" — film NRD.





**PIĄTEK, 27 listopada**

8.05 Nowiny. 8.15 Dla dzieci. 8.45. Film animowany dla dzieci. 9.10 Dla uczniów. 9.40 Film fab. 11.10 Nowiny. 14.30 Program dnia. 14.35 Nowiny. 14.45 Dla uczniów. 15.15 Koncert. 16.00 Nowiny. 16.05 F. Engels. 16.30 Fabryka maszyn rolniczych w Homlu. 17.00 M. Gorki. „Dzieci słońca". Spektakl teatralny. 20.35 Koncert estradowy. 21.15 Nowiny. 21.20 Sport radziecki w sztuce.

**SOBOTA, 28 listopada**

8.20 Program dnia. 8.25 W świecie sztuki. 8.40 Szkatułka muzyczna. 8.55 Program poświęcony 50-leciu Ormiańskiej SRR. 11.00 Przegląd międzynarodowy. 13.15 Andrej Makajonak. 14.15 Uniwersytet ludowy. 15.00 W świecie zwierząt. 16.00 TV szkoła mechanizacji rolnictwa. 16.30 Koncert. 16.40 Kroki pięciolatki. 17.00 Reportaż z uroczystości poświęconych 50-leciu Ormiańskiej SRR. 18.15 Koncert artystów ormiańskich. 19.00 Film fab. 20.50 Koncert solistów Teatru Wielkiego. 21.25 Nowiny.

**NIEDZIELA, 29 listopada**

8.00 Zdrowie. 8.30 Olimpiada fizyczna. 9.35 P. Podkowyrow. 10.15 Film animowany dla dzieci. 10.35 Eureka. 11.00 Koncert symfoniczny. 12.00 Gimnastyka artystyczna. 13.15 Turniej dociekliwych. 13.45 Kroki pięciolatki. 14.00 Dla żołnierzy. 14.30 Kiosk muzyczny. 15.00 Klub filmowy. 16.00 Nowiny. 16.05 Dla wsi. 16.30 Koncert. 17.00 Film fab. 18.35 Czas. 19.00 Koncert. 19.35 Poszukiwania. 20.15 Koncert. 21.00 Nowiny.

## ШКОЛЬНАЕ ЖЫЦЦЁ



На занятках гуртка жывапісцаў у Бельскім беларускім ліцэі.
Фота Цаф — Сянько.

# МАЛАДЗЁЖНЫ ФОРУМ

### ГАЛЯ В. ПАТРАБУЕ ДАПАМОГІ

Наш першы форум на старонках „Нівы” мы адкрылі пісьмом Марысі Сідарчук з Трычоўкі, якая адчувае сябе самотнай, хацела б мець сяброў і перапісвацца з імі, дыскутуючы на розныя тэмы. Лічым, што Марыся ўжо атрымала лісты ад сяброў. Запрашаем сёння Марысю і іншых да нашага шырэйшага форума. Пішыце аб розных хвалюючых вас справах. Калі будзе патрэба, вашы прозвішчы і імёны будуць вядомы выключна рэдакцыі. Гляньце вакол сябе, напішыце, што вам падабаецца, што не, што дзеецца справядліва, а што не, як вы хацелі б бачыць паасобныя справы. Можна апісваць і выказваць свае погляды індывідуальна і трупова, на беларускай і на польскай мовах, без памылак, але нават і з памылкамі.

Сёння друкуем пісьмо Галі. Галя з'яўляецца вучаніцай другога класа аднаго з агульнаадукацыйных ліцэяў Беласточчыны. На першую чвэрць Галя атрымала дрэнныя адзнакі па некаторых прадметах. Напісала ў рэдакцыю трагічны ліст. Друкуем яго поўнасцю, спадзеючыся, што вы адклікнецеся на яго.

**ДАРАГАЯ РЭДАКЦЫЯ!**

**Вучуся я ў агульнаадукацыйным ліцэі ў М. З'яўляюся членам ЗМС. Жыву ў інтэрнаце, а мой дом знаходзіцца ў 25 кіламетрах ад школы. За харчаванне ў інтэрнаце плачу 482 зл у месяц. Атрымліваю 230 зл стыпендыі.**

**Сям'я мая складаецца з сямі чалавек. Бацькі працуюць на гаспадарцы, а старэйшая сястра і брат на іншай працы. У бацькоў 3 гектары зямлі, а даходу ў год 11 тыс. зл. Агульняк я выбрала сама сабе.**

**У першым класе было някепска. Зараз, у другім класе, усё горш з вучобай. На першую чвэрць я мела некалькі дрэнных ацэнак. Найгорш у мяне з польскай мовай і хіміяй. Па польскай мове я маю ўжо дзве двойкі на другую чвэрць, па хіміі — адну. Відаць, буду мець двойкі і на паўгоддзе. Ох! Калі б я магла вучыцца добра, сапраўды была б шчаслівая. Аднак, хаця я і стараюся, відаць, буду вымушана пакінуць школу. Не хачу гэтага рабіць, але думаю, што зрабіць гэта павінна. Ці сапраўды ў гэтай справе мне ніхто не можа дапамагчы? У іншым выпадку я вымушана нешта сабе зрабіць, і канец з такім жыццём.**

**Мне здаецца, што няма ніякага сэнсу вучыцца далей і выдаваць грошы на інтэрнат. Ды дзяржава таксама выдае на мяне многа грошай, а яшчэ ж 230 зл стыпендыі...**

**Думаю, што такі чалавек, як я, не павінен перашкаджаць іншым і зыйсці з дарогі.**

**Ці не так? Ветліва прашу парады.**

**ГАЛЯ В.**

Чакаем разам з Галяю вашых парад.

# КОНКУРС

## на найлепшы вакальны калектыў

Конкурс арганізуецца з нагоды 15-годдзя БГКТ і „Нівы”.

I. Арганізатары: ГП БГКТ і рэдакцыя „Нівы”; суарганізатары: ЗМВ, ВЗГС, аддзел культуры, ПУПіК „Рух”, клубы, пажарная ахова, сельскагаспадарчыя гурткі, ВКЗЗ.

У сувязі з арганізацыяй конкурсу неабходна звязацца з вышэй пададзенымі ўстановамі і стварыць арганізацыйныя камітэты.

II. Конкурс будзе складацца з двух ступеняў:

а) элімінацыі ў аддзелах;

б) цэнтральныя элімінацыі.

III. Мэтай конкурсу з'яўляецца папулярызацыя беларускай песні ў найбольш шырокіх кругах грамадскасці, а асабліва сярод моладзі і сярод мастацкага самадзейнага руху.

У выніку конкурсу беларуская песня павінна быць уведзена ў святліцы, клубы і дамы культуры, а таксама ўключана ў рэпертуар вакальных калектываў не толькі ў асяродзі беларускай меншасці, але таксама ў асяроддзях змешаным і польскім.

IV. У конкурсе могуць прымаць удзел самадзейныя вакальныя калектывы, колькасць членаў якіх можа быць ад 3 да 10 чалавек.

Па-за конкурсам могуць выступіць у паасобных элімінацыях прафесіянальныя вакальныя калектывы.

V. Узрост удзельнікаў конкурсу ад 16 гадоў і больш.

VI. Элімінацыі ў аддзелах неабходна правесці ў месяцах студзені — лютым і спіс лаўрэатаў I, II і III месца даслаць у ГП БГКТ да дня 10 сакавіка 1971 года.

Цэнтральныя элімінацыі адбудуцца ў месяцы красавіку.

VII. Кожны калектыў павінен падрыхтаваць па дзве песні на беларускай мове.

VIII. Для ацэнкі конкурсу арганізацыйныя камітэты паасобных элімінацый назначаюць журы, якое складаецца з 3—7 асоб.

IX. Журы ацэньвае ўдзельнікаў паводле наступных крытэрыяў:

— валёры голасу 1—10 пунктаў;

— інтэрпрэтацыя 1—10 пунктаў;

— падборка рэпертуару 1—10 пунктаў.

Максімальная колькасць пунктаў — 30.

X. Для лаўрэатаў журы прызнае ўзнагароды ад арганізатараў і суарганізатараў.

XI. Кошты падарожжа на элімінацыі ў аддзелах і цэнтральныя элімінацыі пакрываюць арганізатары і суарганізатары адпаведных элімінацый.

XII. Удзельнікі конкурсу могуць выкарыстаць наступныя зборнікі і выданні беларускай песні:

1) „Радзіма мая дарагая” — песні беларускіх кампазітараў. Выдавецтва „Беларусь”. Мінск 1967 год.

2) „Песні савецкага часу”. Выдавецтва „Навука і Тэхніка”, Мінск 1970 год.

3) „Лірычныя песні”, для мастацкай самадзейнасці — гадавікі.

4) Беларускія песні, змешчаныя на старонках тыднёвіка „Ніва”, органа ГП БГКТ.

5) Песні, змешчаныя ў календарах і іншых выданнях ГП БГКТ.

6) Рэгіянальныя песні і іншыя даступныя крыніцы.

# ГАТОВЫ ДА ПРАЦЫ І АБАРОНЫ

У гэты дзень на Бельскім прадпрыемстве аптовага гандлю спажывецкімі таварамі (WPHS) відаць быў нейкі напружаны, нервовы настрой. Усе ведалі, што менавіта на гэты дзень назначаны на іх прадпрыемстве спаборніцтвы на першыства ў агульнадзяржаўным маштабе па спраўнасці завадскіх атрадаў самаабароны. Дык хваляваліся члены гэтага ЗОС-у, хаця за імі ўжо амаль 10-цігадовы вопыт у дзейнасці, хаця не раз прыходзілася ім самаахвярна працаваць, не аглядаючыся ні на гадзіны, ні на снег і мароз. Вось менавіта — снег і мароз. Тут гандлююць таварамі першай патрэбы. Дастаўляюць іх у Бельскі, Гайнаўскі і Сямяціцкі паветы. Каб давезці тавар у магазіны, самі павінны атрымаць яго з ваяводскіх і завадскіх складаў. І нельга ім апраўдвацца тым, што замяло дарогу, што не даехаць, не дайсці. Вось як у студзені гэтага года, калі ў гурбах снегу загразлі пад Бельскам таварныя і пасажырскія цягнікі. Камандзір завадскога атрада самаабароны, таварыш Канстанцін Курыловіч, які адначасова зяўляецца намеснікам дырэктара прадпрыемства, выдаў тады загад: **„Усім членам ЗОС-у неадкладна ставіцца на бельскую чыгуначную станцыю і прыступіць да ачысткі чыгункі!”** І загад быў выкананы без лішніх размоў і каментарыяў. Цягнікі даехалі ў Бельск, і бельскі аптовы склад атрымаў заказаныя тавары.

Нічога, здавалася б, няма ў тым надзвычайнага. Людзі проста выканалі свой грамадзянскі абавязак. І ці важна тое, што яны з'яўляюцца або не з'яўляюцца членамі атрада самаабароны? У час мінулагодняй суровай зімы тысячы ж людзей самаахвярна працавала на розных пастах нацыянальнай гаспадаркі.

Так, сама прыналежнасць да атрадаў самаабароны не з'яўляецца крыніцай гонару і асаблівых заслуг. Важна аднак тое, што дае чалавеку гэтая прыналежнасць, важна і тое, што яна ў працэсе пастаяннага абучэння замацоўвае ў ім пачуццё адказнасці і дысцыпліны, прымушае да калектыўнага дзеяння, пашыраючы сяброўскія адносіны сярод працоўнага калектыву.

Вось у чэрвені г.г. бельскі ЗОС прыняў удзел у ваяводскіх спаборніцтвах на першынства. Успамінаючы гэтую важную для прадпрыемства падзею **(першае месца ў ваяводстве!)**, шэф санітарнай службы, пані Тэрэса Кондрат са смехам гаворыць:

— Нашы дзяўчаты так стараліся, так бегалі, што пот з кашуль вядром цёк! Ды яшчэ цэлы час у цяжкіх камбінезонах, у проціваагазах.

Набліжалася 12-тая гадзіна дня. Камітэт абароны прадпрыемства, старшынёю якога з'яўляецца сам дырэктар, Канстанцін Анапюк, займае сваё месца на камандным пункце. Гадзіна 12.00. Сувязны з Павятовага вайсковага штаба дастаўляе загад, у якім гаворыцца аб увядзенні павышанай гатоўнасці ў сувязі з магчымым нападзеннем на нашу краіну. Старшыня камітэта самаабароны загадвае вызваць камандзіра завадскога атрада самаабароны і шэфаў паасобных служб. Яны неадкладна з'яўляюцца. Праз некалькі мінут чарговае паведамленне Павятовага вайсковага штаба інфармуе аб непасрэднай пагрозе бамбардзіроўкі з боку варожай авіяцыі.

Я таксама слухаю гэтае паведамленне. Таварыш Анапюк хвалюецца. Чамусьці хвалююся і я, недзе з дна грудзей выплывае страх, звычайны чалавечы страх. А можа сапраўды зараз на нашы галавы пасыплюцца смерцяносныя бомбы, як у В'етнаме, як у Лаосе, як у Камбоджы, як у арабскіх краінах, як у нас у верасні 1939 года. Міжволі гляджу ў акно, за якім у пажаўцелых кронах дрэў зіхаціць асенняе сонца. І зноў назойлівая думка вяртае мяне да тых верасnúmеўскіх дзён, калі я яшчэ зусім дзіця — з трывогай чакаў бацьку, якога паклікалі ў акопы. Чаму ж тады не было ў нас такой спраўнай, такой усебакова прадуманай абароны краіны!

Раптам трывожна завыла сірэна. Пасыпаліся кароткія загады. Шэфы паасобных служб адправіліся ў свае атрады, каб заняць загадзя вызначаныя ім пасты і выканаць дакладна завучаныя задачы. Сярод грукату сімуляраваных выбухаў, сярод дыму і нібы-агня забегалі людзі. Спаборніцтвы **завадскога атрада самаабароны** разварнуліся згодна з апрацаваным планам.

Як добра, што гэта толькі спаборніцтвы на першынства, што гэта толькі вучэбныя занятkі!

На жаль, у нашым неспакойным свеце трэба быць штодзень кожнаму з нас гатовым не толькі да працы, але і да абароны свайго месца працы.

Вось у гэтым і заключаецца грамадскі сэнс і нязмерная важнасць існавання і дзейнасці завадскіх і мясцовых атрадаў самаабароны.

**Віктар Рудчык**



Новая Гайнаўка. Фота: Янка Цялушэцкі.

ЧАЛАВЕК — СВЕТ — ПАЛІТЫКА

## ВАЯВОДСКАЯ ПРАГРАМА ДЭКАДЫ

Ад 20 да 30 XI праходзяць дні кніжкі „Чалавек — свет — палітыка”. Іх заданне — дайсці з гэтай кніжкай пад кожны дах, да кожнага чалавека. Асабліва падкрэсліваецца неабходнасць папулярызацыі гэтай кніжкі сярод школьнай і студэнцкай моладзі.

У праграме дэкады на 1970 год, прысланай нам аддзелам культуры Прэзідыума ВРН, чытаем аб шматлікіх мерапрыемствах, прысвечаных прапагандзе кніжкі. Вялікае месца ўдзяляецца ў ёй праблематыцы грамадска-палітычнай і эканамічнай. Установамі вядучымі ў гэтай прапагандзе з'яўляюцца Дом кніжкі, ТПВ, бібліятэкі і „Рух”. Асабліва вялікае значэнне мае тут „Рух”, які прапагандуе кніжкі ў вясковых клубах.

Ваяводская праграма дэкады грамадска-палітычнай кніжкі ўключае каля 50 розных мерапрыемстваў, якія праводзяцца ў ваяводстве. А кожны ж павет мае свае ўласныя праграмы.

Самымі папулярнымі кніжкамі з серыі „Чалавек — свет — палітыка” ў мінулым годзе былі: Г. Жукаў „Успаміны і рэфлексіі” — прадана 517 экземпляраў, М. Рэняк „Дарога з Мюнхена” — 426 экземпляраў, Б. Палявой „Нататнік з Нюрнберга” — 370 экз. „Іскер — праваднік па сталіцах свету” — 315 экз.

Беластоцкі клуб кніжкі „Чалавек — свет — палітыка” 1970, які ахоплівае ўсё ваяводства, налічваў 1680 членаў.

Інфарматар клуба на кніжкі „Чалавек — свет — палітыка” 1971 прыносіць 42 пазіцыі клубных кніжак і 7 прэміяльных. (вл)

# ШТО ЧУВАЦЬ?

### ПРА ТЫТУНЬ І ГРОШЫ

Летам і восенню ў вёсках Дуброўскага павета пахне тытунём. Куды ні заедзеш тут у верасні або ў кастрычніку, усюды кожны плот і сонечныя сцены кожнага будынка абвешаны тытунёвымі лісцьмі. Звыш 100 гектараў поля займае на Дуброўшчыне кантрактацыя гэтай культуры. З кожнага гектара можна атрымаць каля 120 тысяч злотых чыстага прыбытку. Аднак вырошчванне тытуню вельмі працаёмкае. За ім безупынна трэба хадзіць.

Пры нагодзе варта адзначыць, што сяляне Дуброўскага павета не абмяжоўваюцца толькі да вырошчвання і кантрактацыі тытуню. Яны многа сеюць і прадаюць дзяржаве сырадэлі і лубіну.

### ПРА ЗЯЛЁНЫ КОРМ

Да вясны яшчэ далёка. Аднак ужо загадзя варта падумаць, што рабіць, каб на вясну і лета нарыхтаваць добрае пасбішча для сваёй жывёлы. Зялёная трава — самы ж высокаякасны корм.

У Бельскім павеце пад наглядам сельскагаспадарчай службы ў мінулым годзе было наладжана звыш 20-ці прыкладных пасбішчаў. Кантрольны агляд гэтых пасбішчаў паказаў, што вельмі добрымі вынікамі можа пахваліцца Уладзімір Тымашыцкі з вёскі Шчыты-Навадворы. Мае ён ледзь 10 гектараў ворнай зямлі, аднак калі б яго жывёлу, як гэта падае сельскагаспадарчая статыстыка, пералічыць на 100 гектараў зямельных угоддзяў, дык у Тымашыцкага аказалася б: 110 штук кароў і 140 штук авечак. У сваёй гаспадарцы прымяняе ён высокія дозы штучных угнаенняў, а на зіму для кожнай каровы нарыхтаваў ён па 4 тоны сіласу. Дык цяпер не патрабуе турбавацца за корм для сваёй жывёлы.

Сельскагаспадарчая служба ў Бельскім павеце мае намер у наступным годзе наладзіць ужо 35 прыкладных пасбішчаў.

### ПРА КЛЯШЧЭЛЕЎСКУЮ БАЗУ

Міжгуртковая машынатрактарная база ў Кляшчэлях існуе толькі 3 гады. Мае аднак у сваім распараджэнні 13 трактараў і шмат іншых сельскагаспадарчых прылад і машын, якімі абслугоўвае звыш 4 тысяч гектараў сялянскага поля ў раёне Кляшчэляў і Дабрывадаў. У мінулым гаспадарчым годзе яе трактары працавалі па 1180 гадзін кожны. Гэта даволі высокі паказчык эфектыўнага выкарыстання сельскагаспадарчай тэхнікі. Таму кляшчэлеўская база дабілася звыш 100 тысяч чыстага прыбытку.

Добрая праца аплачваецца. Вось у верасні г.г. самая нізкая заработная плата трактарыстаў склала 2 тысячы злотых. Адзін з іх зарабіў аднак аж 3.200 зл, а іншы — 2.700 зл.

Кіраўніком кляшчэлеўскай базы з'яўляецца выдатны мясцовы грамадскі дзеяч Мікалай Дзмітрук, якому ў працы дапамагае рада карыстаючыхся.

### ПРА „РУХ" НА ГАЙНАЎШЧЫНЕ

Мы ўжо пісалі, што ў лістападзе прадпрыемства „Рух" адзначала сваё 20-годдзе. Кіраўніком павятовага аддзела „Руху" ў Гайнаўцы з'яўляецца Пётр Культаўчык. Гэтай працай займаецца ён ужо адзінаццаты год. Дзесяць год у гайнаўскім аддзеле „Рух" працуе таксама Надзея Вярэмюк — кіраўнік секцыі друку і кніжкі.

Культурна-асветную і гандлёвую дзейнасць пляцовак „Руху" на Гайнаўшчыне даволі станоўча ацэньвае сакратар павятовага камітэта ПАРП у Гайнаўцы, тав. Людвік Бартосяк. Ён таксама праінфармаваў нас, што гайнаўскі аддзел „Руху" хутка атрымае новае памяшканне, якое будзе больш спрыяльным для яго дзейнасці. На працягу апошніх 5-ці год грашовыя абароты ў кіёсках і клубах „Руху" на Гайнаўшчыне павялічыліся прыблізна ў 6 разоў. Цяпер за 3 месяцы перавышаюць яны 4 мільёны злотых.

М. НУРЭЦКІ



Пачатак на стар. 1

## БАЦІКІ І ІНШЫЯ

добрую цяжэй падрыхтаваць, а беларускія п'есы, якія я знаю, нядобрыя.»

Уключаецца Зося: «Чаму, Вера, усе вашы п'есы з гарэлкай?»

Мікалай Жабінскі: «У Баціках у мяне актыўны гурток ЗМВ — 24 асобы.

Зося: «Давайце зробім у Баціках Купалу! Я ачаравана Купалам. У яго столькі казачнасці — гэта добра для інсцэнізацыі!» І пайшла гутарка — як і якую паэму Янкі Купалы можна б добра інсцэнізаваць на звычайнай вясковай сцэне ў Баціках.

А я хачу коратка сказаць у далейшым, што чуваць у некаторых сямяціцкіх вёсках, вёсках, якія могуць быць вёскамі актыўнымі.

Бацікі — тыя ж, дзе Мікалай Жабінскі хоча прабаваць стварыць паказовы, новага тыпу, гурток. Бацікаў ёсць тры: Блізкія, Сярэднія і Далейшыя. У адной з іх змяшчаецца сядзіба ГРН. Прыналежаць да яе 8 вёсак. І... дзіва, ва ўсёй гэтай немалой ГРН няма аніводнага клуба, святліцы, ніякай, як кажуць, культурна-асветнай «пляцоўкі». Хто вінаваты, ці ГРН? Не! ГРН згаджаецца фінансаваць клуб, дае памяшканне. Але ані ГС, ані «Рух» сямяціцкі не кваляцца ўвайсці на гэтую пустую тэрыторыю.

Мілейчыцы — нават не вёска, а асада, якая па нейкай там прычыне стала павятовай сядзібай аддзела БГКТ. Некалі радзіліся тут ініцыятывы. Ствараліся групы людзей актыўных, ды адыйшоў той добры час, і Мілейчыцы прыціхлі. Адышло з Мілейчыц некалькі актыўных дзеячоў, і ўсё лягло на лапаткі. Апошнім актыўным мілейчыцкім дзеячом была Тэкля Вашчук, якую цяпер спатыкаеце ў «Лявонісе». У мінулым годзе Мілейчыцы атрымалі з ПДК музычныя інструменты. Усе лічаць, што Мілейчыцы павінны зварухнуцца.

Літвінавічы. Розна тут бывае. У мінулым годзе існаваў гурток. Цяпер неяк глуха.

Сяміхочы — і прозвішча Вавжыняка, мясцовага кіраўніка школы. Гэты чалавек наракае мала, а больш працуе. Працуе з дзецьмі і з дарослымі.

Вілянова — тут Мартыновіч, многа даў з сябе, але вось на днях адыйшоў на работу ў павет.

Слохі Анапольскія — быў калісь актыўны гурток. Многія чакаюць, што ў вёсцы зноў прабудзіцца жыццё.

«Мастацкі рух — гэта не адны драмгурткі. Вёска дарасла да навейшых форм працы. Драмгурток, калі яшчэ і застаецца, з'яўляецца толькі пераходным этапам да форм вышэйшых» — кажа Зофія Пентка. *ВЕРА ЛЕЎЧУК*

## АБ ЦЕНЯХ ЧЫТАЛЬНІЦТВА КНІЖКІ НА БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ

Ваяводская публічная бібліятэка інфармуе нам: ва ўсіх паветах, дзе ў публічных бібліятэках ёсць кніжкі на беларускай мове, зменшылася колькасць чытачоў гэтых кніжак. І так, у Беластоцкім павеце лік чытачоў зменшыўся з 337 ў 1968 г. да 355 у 1969 г., у Бельскім — з 1975 у 1968 г. да 1908 у 1969 годзе, а ў І паўгоддзі бягучага года — аж да 1385, у Гайнаўскім з 1286 у 1969 да 1134 у бягучым годзе, у Сямяціцкім з 132 у 1969 да 85 у гэтым годзе.

Бібліятэка сцвярджае прычыны гэтага стану:

1) Палепшылася з кніжкай на беларускай мове у школьных бібліятэках, моладзь перастала пазычаць кніжкі з публічных бібліятэк. Сярод старэйшых не назіраецца імкнення да чытання кніжак па-беларуску.
2) Сучасны чытач не задавальняецца класічнай літаратурай, а ўсё больш хоча літаратуры сучаснай на шырокія тэмы. Такой беларускай літаратуры на кніжным рынку няма.
3) Бібліятэкам не ўдалося зацікавіць папулярызацыяй кніжкі на беларускай мове ані аддзелаў, ані гурткоў БГКТ, якія з свайго боку не праявілі ніякіх клопатаў.

Ваяводская бібліятэка ў Беластоку аднак не складае рук. Яна імкнецца шырока папулярызаваць кніжкі на беларускай мове. Загадала бібліятэкам правесці селекцыю і падборку кніг, выдзяліць і выкладзіць кніжкі на беларускай мове на асобных, лёгкадаступных полках, зрабіць цікавую інфармацыю, падрыхтаваць выстаўкі навінак. Абавязала таксама публічныя бібліятэкі ў раёне навязаць супрацоўніцтва з аддзеламі і гурткамі Беларускага таварыства, каб супольна заняцца працай з кніжкай. (вл)

## „ВЕЧАРЫ ДРУЖБЫ" НА ВАРШАЎСКІМ БРУДНЕ

Рэдакцыя атрымала пісьмо. У левым яго куце пячаць «Прэзідыум дзяльніцовай рады нарадовай Варшава—Прага—Поўнач. Дзяльніцовы дом культуры».

Кіраўніцтва дома культуры на Брудне (вялікі сучасны варшаўскі жыллёвы квартал) інфармуе нам аб сваім цыкле культурна-асветнай працы пад загалоўкам «Вечары дружбы», якія арганізуе пры ўдзеле Дома савецкай культуры ў Варшаве і дзяльніцовага праўлення ТППР.

Вечарынай 29 кастрычніка 1970 года гэты дом культуры пачаў сваё святкаванне «Дзён беларускай культуры». У першым вечары выступіў з гутаркай Віктар Швед, рэдактар «Ксёнжкі і Веды». Ён ахарактарызаваў развіццё і дасягненні беларускага народа, а потым чытаў уласныя вершы на беларускай і польскай мовах. У далейшым удзельнікі слухалі беларускую музыку і глядзелі беларускі фільм.

У пісьме чытаем: «Больш як 300 слухачоў з вялікім адабрэннем прынялі гэты наш «Вечар дружбы». І далей «хочам вас, дарагія таварышы, праінфармаваць, што ў рамах святкавання «Дзён беларускай культуры» ад 28.X. да 18.XI.1970 года экспануем у нас выстаўку «Народнае беларускае мастацтва». (вл)



Вёска Кошкі (Бельскі павет) позняй восенню. Фота: Сяргей Грынявіцкі.

## ЮБІЛЕЙНЫ КОНКУРС САВЕЦКАЙ ПЕСНІ

Прапанова арганізавання конкурсу савецкай песні выйшла з Беласточчыны. А вось ужо і X — юбілейны конкурс, аб'яўлены ў 1970 годзе.

Першы конкурс у асноўным і згуртаваў любіцеляў савецкай песні з нашага ваяводства. Першымі і агульнапольскімі лаўрэатамі былі беластачане, салісты „Лявоніхі" — Люба Томчык і Аляксандр Каліноўскі.

У наступных гадах конкурс ахопліваў усё шырэйшыя кругі любіцеляў песні ва ўсёй краіне.

Конкурс савецкай песні — цяпер адно з цікавейшых у краіне культурных мерапрыемстваў. Гуртуе многа любіцеляў песні і дасканалых яе выканаўцаў. Беластоцкія выканаўцы ўвесь час ідуць на перадзе. Юбілейны X конкурс ставіць большыя, чым дагэтуль вымаганні для выканаўцаў і для арганізатараў.

Ваяводскі агляд прадбачыцца ўвесну будучага года ў Беластоку. Будзе ён вялікім урачыстым святам савецкай песні.

Кіраўніцтва ТПП-Р і сакратар Ваяводскага праўлення Зофія Трыбульская ў прыватнасці хочуць бачыць вялікі ўдзел беларускай песні ў X юбілейным конкурсе савецкай песні. Зофія Трыбульская не раз заклікала да гэтага, між іншым, на пленуме ГП, які адбыўся ў кастрычніку, а прысвечаны быў праблематыцы мастацкага культурнага руху. (вл)

## ЁСЦЬ ДАСЯГНЕННІ Ў ГАЙНАЎСКІХ ГУРТКАХ

Сельскую гаспадарку Гайнаўскага павета нельга мерыць памерамі і вагою сельскай гаспадаркі іншых паветаў — далёка ёй да вядучага месца ў ваяводстве. Тым не менш аднак мае яна вялікія магчымасці развіцця ў галіне прадукцыі збожжа і караняплодаў, у павышэнні ўзроўню жывёлагадоўлі, а таксама ў развіцці садаводства і агародніцтва.

### 205 ТЫСЯЧ ГАДЗІН

У гайнаўскай вёсцы вырасла сялянская грамадска-прафесіянальная арганізацыя, якая існуе і дзейнічае ўжо ў 123 вёсках, такім чынам, амаль у кожнай. Належыць да яе кожны трэці селянін, які мае прынамсі паўгектара зямлі, належыць амаль кожны, хто звязвае сваю рэчаіснасць і бліжэйшую будучыню менавіта з гэтым варштатам працы. З'яўляецца яна вялікім матарам росту прадукцыі і культуры сельскагаспадарчай гайнаўскай вёскі. Гайнаўскія гурткі супольна з гурткамі вясковых гаспадынь згуртоўваюць больш 7.035 цікавейшых у гэтых умовах вытворцаў хлеба з маслам.

Гайнаўскія гурткі маюць ужо 293 трактары і 176 абмалотачных агрэгатаў, 203 прычэпы, амаль 522 сеўнікі, 136 капарак, 124 касяркі, 103 апрысківачы і многа іншых сельскагаспадарчых машын. Калі да гэтай маёмасці даць хлявы, гаражы, склады, дык акажацца, што гайнаўскія гурткі з'яўляюцца арганізацыяй не толькі шматлікай, але і багатай, якая можа ў многіх вёсках дапамагаць кожнаму ў любы час. У канцы верасня 1970 года сельскагаспадарчыя гурткі мелі ў сваім распараджэнні маёмасць вартасці 60 мільёнаў злотых.

У мінулым годзе трактары гэтыя працавалі на палях і дарогах гайнаўскай вёскі каля 205 тысяч гадзін, а за тры кварталы гэтага года — 160 тысяч гадзін. Яны аралі, сеялі, касілі збожжа, капалі бульбу, перавезлі 1.700 тон угнаенняў, многа з гэтага рассеялі, абпырсквалі сродкамі аховы раслін 2.000 гектараў плантацый і г.д.

### ШУКАЎ, АЛЕ НЕ ЗНАЙШОЎ

Важнасць і пасляховасць працы сельскагаспадарчых гурткоў залежыць не толькі ад механічных прылад, але таксама і ад людзей. Менавіта гэтай справе асаблівую ўвагу прысвяціў апошні пленум павятовага камітэта ПАРП.

Гаворыць Міхал Адамец. Паведаміў ён, што з'яўляецца кіраўніком міжгуртковай машыннай базы ў Саках, і пачаў расказваць, як арганізацыя дайшла да таго, што ў кожнай вёсцы кожны селянін мае сілас, што пабудавана 3 кіламетры дарогі, каб не нішчыць фурманак, трактараў і прычэп. А маюць яны ўжо гэтых машын на 2.200 тысяч злотых, у тым ліку 11 трактараў, 4 абмалотачныя агрэгаты. І хаця вёска невялікая (ёсць у ёй толькі 80 гаспадарак), дык аднак усе машыны поўнасцю выкарыстаны. А хацелі б яны закупіць машын яшчэ больш.

У мінулым годзе паслуговая дзейнасць прынесла гуртку 75 тысяч даходу. Праўленне гуртка вырашыла, такім чынам, зрабіць запас тых часцей, якія псуюцца найбольш часта. Старшыня ездзіў, шукаў, але... не знайшоў нават вінціка. Дык пытае Міхал Адамец, хто не паспявае з прадукцыяй, пытае, калі будуць добрыя сеўнікі для ўгнаенняў, калі будзе жужаль і цэмент для прадукцыі будаўляных матэрыялаў. Ўласна кажучы, не пытае, не просіць. Ён патрабуе.

Каб не прасіць угнаенняў тады, калі іх няма, пабудавалі яны на вёсцы склады ўгнаенняў, у якія звозяць угнаенні вагонамі. Суседзі маюць цяпер угнаенні блізка, бачаць іх штодзень, дык ахвотна і без цырымоніі бяруць. Восенню закупілі іх у два разы больш, чым у першай палове мінулага года. Ці будзе большы ўраджай? Павінен быць.

Выступалі таксама Віталіс Пякарскі з Нарвы, Ян Чыквін з Дубіч Царкоўных і шмат іншых перадавых сялян. Што за цудоўныя людзі! Колькі іх ёсць? Шмат. Амаль 120 старшынь, бо столькі ёсць гурткоў. А акрамя таго

В. БЕРАЖКОЎ

З ДЫПЛАМАТЫЧНАЙ ГІСТОРЫІ ДРУГОЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ

# ТЭГЕРАНСКАЯ СУСТРЭЧА

## 3. ЗА КРУГЛЫМ СТАЛОМ

Пленарныя пасяджэнні канферэнцыі праходзілі ў вялікай зале, якая была дэкарыравана ў стылі ампір. Пасярэдзіне стаяў вялікі круглы стол, пакрыты абрусам з крэмавага сукна. Вакол былі расстаўлены крэслы, абцягнутыя паласатым шоўкам, з мудрагелістымі падлакотнікамі з чырвонага дрэва. У цэнтры стала — драўляная падстаўка з дзяржаўнымі флагамі трох дзяржаў —удзельніц канферэнцыі. Перад кожным крэслам на стале ляжалі блакноты і завостраныя алоўкі. Непасрэдна ля стала займалі месца галоўныя члены дэлегацый і перакладчыкі. Астатнія дэлегаты і тэхнічны персанал размяшчаліся на крэслах, што стаялі ззаду сіметрычнымі радамі.

Дыскусія на пленарных пасяджэннях вялася свабодна, без загадзя зацверджанага парадку дня. Выступаючы, дэлегаты не чыталі ніякіх прадрыхтаваных тэкстаў, а нібы выказвалі ўголас свае меркаванні па закранутых пытаннях. Таму дыскусія часам пераскоквала з адной тэмы на другую, а затым зноў вярталася да першапачатковай праблемы. Загадзя дамовіліся, што на першым пленарным пасяджэнні старшынстваваць будзе Рузвельт. Ён умела выканаў гэты абавязак. Безумоўна, тут адыграў ролю яго шматгадовы вопыт кіраўніка вялікай партыйнай машыны ў ЗША.

Першае пленарнае пасяджэнне адкрылася 28 лістапада ў 16 гадзін. Працягвалася яно тры з палавінай гадзіны, прычым абмеркаванню падверглася шмат пытанняў. Галоўным з іх было пытанне аб адкрыцці амерыканцамі другога фронту ў Еўропе.

Рузвельт падкрэсліў, што аперацыя праз Ла-Манш з'яўляецца вельмі важнай. Ён сказаў, што заходнія саюзнікі ўжо на працягу паўтара года складаюць адпаведныя планы, але ўсё яшчэ не змаглі вызначыць тэрміну гэтай аперацыі з-за недахопу танажу.

(Працяг на стар. 6)

## НОВЫЯ ХАДНІКІ

У вёсцы Старое Ляўкова (Гайнаўскі павет) робяць хаднікі. Ужо дагэтуль тратуарныя пліты паложаны паабапал дарогі ў вёсцы пры школе, пры будынку ГРН і краме.

Варта дадаць, што новы брук і кравэнжнікі былі закладзены Беластоцкім прадпрыемствам прамысловага будаўніцтва. Яно пабудавала новую дарогу ад чыгункі да ляўкоўскай керамічнай фабрыкі.

Я. Цялушэцкі

працуе ж тут больш 350 людзей, у тым ліку амаль 250 трактарыстаў і каля 50 механікаў і дыспазітараў. Вялікая армія людзей з кваліфікацыямі, якіх не ведала дагэтуль гайнаўская вёска.

### МОГУЦЬ БЫЦЬ ВЯЛІКАЙ СІЛАЙ

Уласна кажучы, гэта вялікая армія новых людзей і машын прымушае па-новаму глянуць на гайнаўскія гурткі і іх магчымасці. Добра зразумеў гэта павятовы камітэт ПАРП у Гайнаўцы. Таму прысвячае свае пленарныя пасяджэнні менавіта гэтым праблемам. На гэтых пасяджэннях шукае ён магчымасцей найбольш поўнага выкарыстання вялікага прадукцыйнага патэнцыяналу. Гэта зразумела. Галоўнай жа мерай дзейнасці гурткоў з'яўляецца іх уплыў на рост прадукцыі і сельскагаспадарчай культуры. Ужо многа гадоў мы падкрэсліваем, што ў нашай сельскагаспадарчай палітыцы менавіта яны з'яўляюцца галоўным арганізатарам сельскагаспадарчай прадукцыі на вёсцы.

Тут, у гайнаўскіх умовах, могуць яны зрабіць асабліва многа. Рост сельскагаспадарчай прадукцыі ў апошнія гады не быў тут яшчэ здавальняючы. Але ў сучасны момант гайнаўскія гурткі з'яўляюцца вялікай на вёсцы сілай, могуць яны ўжо адыгрываць вядучую ролю ў параўнанні з перадавымі паветамі.

КАСТУСЬ ЛЯШЧЫНСКІ

НАТАТКІ З ЮГАСЛАВІІ




Паўтары гадзіны самалётам з Варшавы, і мы прызямляемся на ветлівай зямлі югаслаўскай — у сталіцы сонечнай Харвацкай рэспублікі — Загрэбе. Загрэб — гэта поўнач Югаславіі.

Яшчэ кіламетраў 200 аўтобусам на захад, і перад намі адкрываецца прыгажэйшая панарама гор, зелені і цудоўнай, шмарагдовай Адрыятыкі, ці Ядрана, як кажуць тутэйшыя.

Імчаць па аўтастрадах патокі машын. Імчаць прынамсі «сотняй», нягледзячы на прорвы і крутыя павароты. Калі пападзеш у гэты вір машын, цяжка з яго выбыць, зменшыць газ. Бяда таму, хто не знаючы дарогі, разгоніцца занадта. Не раз даводзілася нам убачыць разбітую машыну ў рове. Машыны тут наогул ездзяць марак найлепшых, найбольш вытрымалых. На гэтыя машыны арыентуюцца перш за ўсё розныя пункты і станцыі рамонту самаходаў. Наш сусед па пляжу, які адважыўся прыехаць сюды нашай папулярнай «Сірэнкай», праз тыдзень вымушаны быў пагрузіць яе ў таварны вагон, які ішоў назад у Польшчу. Жонка і дачка бедавалі: «Вось і па адпачынку...»

На поўначы Югаславіі цёпла. Прыгожы, як у казцы, Ядран прыцягвае сюды тысячы і тысячы турыстаў. Найбольш іх прыязджае з Заходняй Германіі і Аўстрыі. Нямала ёсць італьянцаў, англічан, датчан і іншых. Нашага земляка-турыста сустрэнеш не часта. Зласлівыя людзі кажуць: немцы акупавалі Югаславію ў час вайны, яны «акупуюць» яе і цяпер. Але калі «акупацыяй» можна назваць дасканалы гаспадарчы інтарэс, тады ўсё становіцца зразумелым.

Бо югаславы жывуць перш за ўсё з турыстыкі. На турыстыку тут настаўлена ўсё: гатэлі, рэстараны, прыватныя кватэры, магазіны і бензінныя станцыі, банкі і вакзалы. Усё — для турыстаў. І дасканалае абслужванне, і народныя вырабы, якія прадаюцца скрозь на вуліцах, і гатоўнасць прыйсці з дапамогай.

Гасцінны тут народ. Памыляўся б аднак той, хто разумеў бы гэтую гасціннасць паводле крытэрыяў нашага родзіча. Гасціннасць іхнюю можна было б сфармуляваць коратка: ты мне добра плаціш, я раблю табе паслугі найвышэйшай якасці. Прыкладам гэтага могуць быць хаця б югаслаўскія магазіны. Справа ў тым, што кожны магазін тут (нават дзяржаўныя) працуе на ўласны разрахунак, сам устанаўлівае на тавары цэны і прадае ўсё як мага даражэй. Наша праваднічка нас адразу папярэдзіла, што перад тым, як купляць што-небудзь у іхніх магазінах, трэба добра разглядзецца, бо ў магазінах, якія стаяць нават побач, можна купіць тыя ж самыя тавары зусім па рознай цане.

Так, каштуе ўсё тут нямала. Аднак ветлівасць і ахвярнасць увайшлі ў прывычку: вы б бачылі, колькі стараннаў далажыў прадавец аднаго з магазінаў, калі мы захацелі купіць мужчынскую кашулю. Ён выклаў усе кашулі, што былі пад рукой, на прылавак, пасля прыставіў драбінку, палез наверх, дастаў яшчэ іншыя. А мы нічога не купілі. І дзіва — прадавец не глянуў на нас крыва, не буркнуў нешта ў адказ, а сказаў ветліва: „Бывайце здаровы! Заходзьце, калі ласка".

А як спраўна ўвіхаюцца там хлопцы на бензастанцыі! Машына яшчэ не затрымалася, а ўжо бягуць ёй насустрач хлопцы са шлангамі ў руках. Адразу падыходзіць інкасент са скрыначкай, павешанай на шыі, і шафёр разлічваецца за бензін, не выходзячы з машыны. Турысты не трацяць дарэмна ні хвіліны — шкада сонца. Не трацяць яны часу і пры абмене валюты. Зрабіць гэта можна не толькі ў банку, але амаль на кожнай аўтобуснай станцыі. Для турыстаў, самотных і груповых, пры шашы пабудаваны карчмы ў народным стылі, дзе галодны падарожнік можа адпачыць, ды пасмакаваць смажанай парасяціны ці рыбкі.

Вялікую ўвагу тут прысвячаюць папулярызацыі народных вырабаў. Прадаюцца яны ў кожным

(Працяг на стар. 6)



Жанчыны на вуліцах Загрэба паказваюць, як вырабляюцца народныя дываны і кілімы.

*Адрэж па лініі, назначанай пункцірам, зрабі дзіркі ў месцы, вызначаным кружкамі і наніжы старонкі на дроцік або шнурочак.*

БІБЛІЯТЭЧКА "Нівы" ○ ЯНКА МАУР ○ ПАЛЕСКІЯ РАБІНЗОНЫ ○



— А ты забыўся, як мы баранілі агонь? — адказаў той. — Хочаш яшчэ раз рызыкнуць? Добра, што так абышлося. А бегчы тады, калі вялікі дождж пайшоў бы, было б позна.

Шукаць да апошняга арэха было марудна, знаходзіліся ж яны блізка ад сваёй стаянкі, — таму вырашылі рэшту арэхаў падабраць другі раз.

Да стаянкі было не болей, як паўкіламетра. Агонь захаваўся добра. Памылі смаржы, кінулі ў агонь. Грыбы зморшчыліся так, што нават не было чаго есці. Ды яшчэ попелу набралася ў зморшчкі столькі, колькі было дабра ў самым грыбе. Але ўсё ж такі страва выйшла досыць смачная.

— А ведаеш што? — сказаў Мірон. — Я лічу, што гэты попел з поспехам заменіць нам соль. Я недзе чытаў, што ёсць на зямлі куткі, дзе людзі наогул ужываюць попел замест солі.

— Ну і еш на здароўе, гэтага дабра хопіць, — адказаў Віктар. — Вось толькі шкада, што другой стравы няма, а прыходзіцца адразу прымацца за трэцюю, за арэхі.

— Затое наогул сёння наш абед — панскі. Далікатны і смачны.

Пасля абеду зараз жа ўзяліся будаваць сабе «хату». Доўга меркавалі, як гэта без сякеры і нажа ўзяцца за працу, і, нарэшце, знайшлі добры выхад. У тых кустах, дзе злавілі зайца, яны выбралі мясцінку, а над ёй звязалі дрэўцы, што раслі побач. «Зруб» выйшаў дасканалы, моцны. А пераплесці яго, зрабіць страху было зусім няцяжка.

Хата выйшла на славу. Каб чысцей было, падлогу засыпалі пяском, а ложкі зрабілі з летняга чаротніку. Радасць хлопцаў была бязмерная. З якім замілаваннем яны аглядалі сваю пабудову, затыкалі кожную шчыліну, абламлівалі кожную лішнюю галінку, цешыліся і знадворку і з сярэдзіны! Гэты зроблены іх уласнымі рукамі будан здаваўся ім найлепшым памяшканнем у свеце.

—Цяпер я згодзен жыць тут хоць усё лета! — цешыўся Віктар.

— Вось тут арэхі і паложым, а ў гэтым кутку — сухія дровы, каб падтрымліваць агонь у час дажджу, гаспадарыў Мірон.

Калі будан (або «юрта», як казаў Віктар) быў гатовы, прыступілі да ўпарадкавання агню. Галоўную базу для яго выбралі ў той ямцы пад коранем дрэва, дзе было іх логава.

— Трэба выкапаць ямку глыбей, каб жар у ёй доўга захоўваўся, — меркаваў Віктар, — ды пусціць яе пад корань, каб вада не дабралася.

— Гэта было б добра, — сказаў Мірон. — Але ж мы гэткім чынам сапсуем вялікае каштоўнае дрэва.

Зірнуў Віктар на дрэва — высокае, магутнае, вельмі прыгожае. Лепш было б пад пнём ссечанага дрэва, але такога не відаць.

— Шкада дрэва, — уздыхнуў ён, але справа ідзе аб



Пырснула страла ў паветра і звалілася за некалькі крокаў ад нас. Абодва пакаціліся ад смеху.

— Вось дык зброя! — крыкнуў Мірон.

— Ты не думай, — нібы сур'ёзна адказаў Віктар. — Каб там сядзеў заяц ды каб канцом стралы трапіла яму ў вока, каб ад перапуду і неспадзеўкі ён кінуўся у наш бок, — вось і была б здабыча. А такія выпадкі здараюцца. Мой бацька казаў, што яму аднаго разу без ніякай стралы заяц кінуўся пад ногі.

— Калі такім чынам, дык я згодзен, — смяяўся Мірон.

Яшчэ раз напяў Віктар лук, але на гэты раз выйшла яшчэ лепш: шнуркі разваліліся.

— Жарты ўбок, — сказаў Віктар сур'ёзна. — Я сам ведаю, што гэта глупства. Але няўжо ж мы не можам зрабіць лук сапраўдны, як у дзікуноў? У нас жа можа быць і скураная цеціва.

— Яно так, — адказаў Мірон, — але для гэтага і дрэва патрэбна больш адпаведнае, і трэба ведаць, як яго апрацаваць, умець рабіць стрэлы, ведаць усе іхнія капрызы і, нарэшце, практыкавацца шмат часу. А самае галоўнае — мець нож. Можа, у далейшым нам і давядзецца ўзяцца за гэта. А цяпер лепш пойдзем паглядзім, ці нельга будзе дзе якую рыбіну злавіць.

— А чым будзеш лавіць?

— Паглядзім спачатку, што і як, а там убачым. Можа, і кашуляй ці штанамі можна будзе.

Пайшлі ўздоўж балота.

— Глянь, здаецца, вада пачынае спадаць, — заўважыў Віктар.

Яно і сапраўды так было. Вада крыху адсунулася. У розных месцах з-пад вады павытыркаліся новыя купінкі травы.

— Гэта добра, — сказаў Мірон, — але для рыбнай лоўлі застанецца менш магчымасцей, бо замест вады мы будзем мець балота.

Так ішлі яны цэлую гадзіну, шукалі даступнай вадзяной прасторы. Нарэшце падышлі да адной маленькай затокі. Вада клінам уразалася ў лагчынку між двума ўзгоркамі. Лагчынка была не балотная, пясчаная. Пасярэдзіне ўтварылася нібы возера, якое злучалася з сапраўдным возерам вузкай пратокай.

— А ў гэтым кутку павінна быць рыба, — сказаў Віктар. — Вада спакойная. Бачыш, як светла і ўтульна тут пад сонцам. А вунь і рыбкі мільгаюць.

І ён пачаў здымаць споднюю кашулю.

— Завяжам каўнер і рукавы, уставім абруч — вось і будзе сак, не горшы ад рыбацкага, — казаў ён, але праз некалькі хвілін крыкнуў: — Ах, каб на цябе кадук! Парваная! Здымі сваю.

Мірон зняў кашулю. Завязаць яе ды ўставіць лазовы абруч было лёгкай і хуткай справай.

Праз некалькі хвілін нашы рыбакі ўжо ўлазілі ў ваду. Але хутка яны ўбачылі, што нічога ў іх не будзе, бо вада не выходзіць з кашулі і рыба нават пры добрым жаданні не магла трапіць у яе — вада не пускала.

— А ведаеш, твая падраная кашуля больш падышла б, — сказаў Мірон.

30.

жыцці двух савецкіх грамадзян. Мы адпрацуем дзяржаве за гэтае дрэва і пасадзім замест яго некалькі новых.

— Каб былі камені, дык можна было б сякую-такую печку скласці, — сказаў Мірон. — У далейшым будзем гэта мець на ўвазе і не мінаць аніводнага каменя, які дзе ўбачым.

Узялі пад увагу і тую акалічнасць, што дажджы ў нас часцей за ўсё ідуць з захаду, таму пячурку зрабілі з усходняга боку дрэва. Для хатніх патрэб расклалі другое вогнішча каля свайго памяшкання.

Нарэшце ўсё было ўпарадкавана, і куток адразу набыў культурны выгляд. А будаўнікі на гэты час зусім забыліся, у якім становішчы яны знаходзяцца, і адчувалі сябе так добра, як ніколі.

Падвечар шэрыя хмаркі ўсё ж такі сабраліся ў адну і затулілі ўсё неба. Пачаў пырскаць дробны дожджык, але цяпер ён быў няшкодным, нават адкрытае вогнішча ад гэтага не цярпела. Такое надвор'е не толькі не псавала настрою, але рабіла больш утульным памяшканне.

Уначы ў некаторых месцах зверху капала на хлопцаў.

— Бач ты, — бурчалі яны. — Здаецца, так шчыльна рабілі, а ўсё яшчэ працякае. Трэба будзе заўтра падправіць.

VII

**Няўдалася спроба. — Да дзікуноў яшчэ не дараслі. — Рыбацтва кашуляй. — Уласнай гадоўлі рыба.**

На другі дзень надвор'е выдалася зусім добрае. Вясна шпарка ішла наперад. Раніцою пайшлі падбіраць згубленыя ўчора арэхі і шукаць смаржкоў. Арэхі падабралі, але добрых смаржкоў не знайшлі: відаць, іх час зусім прайшоў.

— Давай зробім лук, — прапанаваў Віктар. — Можа, якога-небудзь дурнога зайца ўдасца аглушыць.

— А можа, мядзведзя хочаш? — засмяяўся Мірон.

Але на кожны выпадак узяліся за майстраванне. Выламалі па добраму арэхаваму дубцу, канцы іх абсмалілі на агні. Зарубкі зрабілі Міронавай спражкай. Віктар напяў свае шнуркі, а Мірону не было чаго напінаць.

— Можна б адрэзаць сваім нажом тонкі пасак ад рэменя, — сказаў ён, — але на гэта трэба патраціць некалькі дзён, ды і не спадзяюся я на гэтую зброю.

— А як жа дзікуны?

— Мы цяпер у горшым становішчы за дзікуноў. У іх лук быў вынікам шматвяковай культуры, сродкам здабывання спажывы, а для нас гэта цацка. Давай давядзём да ладу спачатку твой.

Найцяжэйшай справай аказалася зрабіць стралу. Выразаць сапраўдную стралу з сухога моцнага дрэва не было магчымасці. Прыйшлося ўзяць проста дубец ды абсмаліць яго. Падрыхтаваўся Віктар і стрэліў.

32.

— Не, дзірка вялікая, ды яна адразу падралася б яшчэ болей. Як жа быць? Хіба вось што зробім: развяжам рукавы і возьмем за канцы адной рукой, а другой, будзем трымацца за абруч.

— А калі рыба палезе праз рукаў, дык яе — цап! — засмяяўся Мірон. — Давай гэтак.

Пачалі лавіць новым спосабам. Пайшло лягчэй, але нязручна было тое, што трэба было нахіляцца ў ваду па шыю, каб трымаць рукавы на належнай глыбіні.

Праз некаторы час Мірон закрычаў:

— Ёсць! Стой! Ах, вырвалася!...

— У-у, нязграбайла! — раззлаваўся Віктар.

— Ды маленькая была, — апраўдваўся Мірон.

Праз хвіліну закрычаў Віктар:

— Ёсць! Трымай свой канец, каб не ўцякла! Да берага цягні, да берага! Падымай угору! Вялікая... Ой, кусаецца!

Цяжка было цягнуць на бераг кашулю, нібы бочку, поўную вады. Але ж, калі выцягнулі, дык знайшлі ў ёй дзесятак дробных рыбак, а ў Віктара ў руцэ быў двухфунтовы шчупак!

— Вось гэта дык здабыча! — цешыліся хлопцы.

Болей на гэты раз не хацелі лезці ў ваду, бо змерзлі.

— Куды яна дзенецца, — казаў Віктар. — Мы можам увесь час тут лавіць, нібы ва ўласнай сажалцы.

Але Мірон сумна паківаў галавой:

— Можа, ужо заўтра гэтай сажалкі не будзе. Не забывайся, што яна зрабілася толькі ў час паводкі.

— Вельмі шкада! — збянтэжана прамармытаў Віктар і ўтаропіў вочы ў ваду. А праз момант ён радасна крыкнуў: — Дармо! Мы ж можам зрабіць перагародку вунь у тым вузкім месцы. Хай сабе вада сыходзіць, а рыба застанецца.

Зараз жа прыступілі да працы. Торкалі ў зямлю ўсё, што можна было ўторкнуць. Вельмі слабая была загарадка, але ж затое яны ўзялі колькасцю. Праз гадзіну трэбля каля метра шырыні аддзяляла затоку ад возера ці балота. Каб тут была бягучая вада, яна ў адзін міг разбурыла б іхняе збудаванне, але, на шчасце, гэтага можна было не баяцца.

— Вось рыба і ў палоне! — захапляўся Віктар. — Хай сабе гадуецца, а мы будзем браць колькі захочам і калі захочам.

Такая магчымасць значна ўзняла дух хлопцаў, бо з'явілася некаторая ўпэўненасць і ў заўтрашнім дні. Вечарам ля вогнішча Мірон разважаў:

— Пяці дзён яшчэ не прайшло, а якія змены адбыліся ў нашым становішчы! І агонь маем, і хату, і спажыву, нават сваю рыбную гаспадарку.

— Я больш быў бы задаволены, каб мы мелі сваю хлебапякарню, — сказаў Віктар, абгрызаючы выкачаную ў попеле касцістую рыбку.

Як кожны вечар, пасля дзённых турбот гутарка іх перайшла да хатніх спраў. Якімі далёкімі здаваліся цяпер гэтыя справы! Не верылася, што пры нармальных умовах за адзін дзень можна было б вярнуцца дадому. Пакуль не прайшлі дзесяць канікулярных дзён, вялікай трывогі там яшчэ не будзе. А калі яны пройдуць?...

(Працяг са стар. 5)




рухлівым месцы. І хаця яны не танныя, купляюць іх ахвотна, асабліва госці з Захаду. На вуліцах можна сустрэць жанчын, якія ў народных уборах дэманструюць (для рэкламы і атракцыі), якім чынам і на якіх станках выпрабляюцца народныя дываны і кілімы.

Летам, у перыяд найбольшага турыстычнага руху, нярэдка на скрыжаваннях вуліц можна бачыць у якасці рэгуліроўшчыкаў руху маладых людзей у белых трапікальных уборах. Гэта студэнты, якія ў час летніх канікул дапамагаюць міліцыі, а заадно могуць папоўніць свой скромны студэнцкі бюджэт.

Летні перыяд наогул дае магчымасць зарабіць многім людзям: яны прапануюць турыстам свае кватэры, прадукты ўласнага вырабу, розныя тавары.

Але гэта не ўсё. Наш экскурсавод, пані Алінка — па адукацыі архітэктар. Мае аднак яна малых дзяцей і не працуе. У летнія месяцы яна можа ўсё ж крыху падзарабіць, ды падзарабіць так, каб хапіла на цэлы год.

Наш жа шафёр Іво, які дзельна вазіў нас больш двух тыдняў на розныя экскурсіі, — не толькі шафёр. Ён піяніст, скончыў кансерваторыю. Аднак праца шафёра таксама вельмі адказная. Не раз даводзілася нам, затаіўшы дыханне, чакаць пакуль наш аўтобус, з'язджаючы на самы край прорвы, зможа размінуцца на вузкай горнай дарозе з сустрэчным аўтобусам. Але пальцы Іво былі чулыя і пэўныя, як у піяніста. Такія яны павінны быць і ў шафёра першага класа.

Дык едуць сюды турысты. Мала б было аднак, сказаць, што едуць яны сюды толькі за сонцам. Едуць яны сюды за танным сонцам. Бо хоць усе паслугі каштуюць тут нямала, то ўсё ж на многа менш, чым на Захадзе.

АДА ЧЭЧУГА
Фота аўтара



Тыповы югаслаўскі гарадок

## КУТОК ГАСПАДЫНІ
## ШТО РАБІЦЬ, КАБ ДОБРА ЗВАРЫЦЬ

### СВЯТОЧНЫЯ САЛАТЫ

На добрым святочным стале не можа забракнуць святочнага салату. Сапраўдная гаспадыня павінна ўмець рабіць добрыя салаты. Але не толькі ўмець. Павінна яна прывучыць сваю сям'ю да таго, што і салаты — яда і закуска — вельмі смачныя, а паколькі складаюцца яны ў асноўным з гародніны, то нельга пераацаніць іх значэння і вартасці.

Свае ўвагі я кірую перш за ўсё да жыхароў вёскі. Бо менавіта там за салатамі не прападаюць. Большасць гаспадынь лічыць, што дастаткова, калі наробіць яна для гасцей мноства мясных патраў, розных кілбас і г.д. А калі ўжо нейкая гаспадыня і высіліцца на тое, каб быць гаспадыняй сучаснай, ды зробіць нешта з салатак, дык найчасцей застаюцца яны на стале няз'ездзеныя. А ўсё гэта таму, што ў большасці сем'яў няма ў гэтых адносінах традыцый.

Добры, святочны салат робяць не з алівай, не са смятанай, а з маянезам. Як вядома, маянез вельмі проста робіцца з сырога жаўтка і алівы, і аб гэтым дакладней мы напішам у наступным нумары.

На найбольш рэпрэзентацыйны стол прапануем вам падрыхтаваць салат з гародніны, так званы «яжыновы». Каб атрымалася даволі вялікая міска салату, трэба ўзяць 5—6 бульбін, 3—4 морквіны, 2-3 пятрушкі, 1 невялікі селер, 4—5 яечак і зварыць усё гэта (гародніну варым у лупінах, перад варкай трэба вымыць яе шчотачкай). Звараную гародніну і яечкі абабраць, дробна нарэзаць, дадаць кавалак дробна нарэзанага сырога селера, зялёны кансерваваны гарошак, некалькі нарэзаных дробна марынаваных грыбкоў і кансерваваных агуркоў, а таксама 2—3 абабраныя і дробна нарэзаныя кіслыя яблыкі. Усё пасаліць, добра вымяшаць і запраўіць маянезам. Калі хто не вельмі любіць маянез, то раім развесці яго напалову добрай, густой смятанай. Смак салата ад гэтага не будзе горшы. Калі хто не мае якраз зялёнага гарошку, можа замяніць яго фасолькай (яе трэба зварыць у падсоленай вадзе). Наогул розныя складнікі можна мяняць у залежнасці ад таго, што ёсць пад рукой.

Можна зрабіць яшчэ салат так званы «следзёвы», г.зн. салат, да якога мы дадаем селядцы. Для гэтага салату патрэбна нам таксама гародніна, а менавіта: на 3 ачышчаныя і вымачаныя селядцы бярэм 3/4 шклянкі белай фасолькі, 4 бульбіны, 2 кіслыя агуркі, 1 яблыка, 1 цыбуліна. Селядцы рэжам на дробныя кавалачкі, бульбу варым у лупіне, варым у пасоленай вадзе фасольку. Пасля гэтага нарэзваем дробна бульбу, змешваем яе з селядцамі, дадаем нарэзанае яблыка, кіслыя агуркі і цыбулю, а пасля фасольку. Усё гэта вымешваем з маянезам, а зверху прыбіраем салат зялёным гарошкам, а калі ёсць, яшчэ палоскамі марынаванай папрыкі.

*Гаспадыня*

(Працяг са стар. 5)

В. БЕРАЖКОЎ

З ДЫПЛАМАТЫЧНАЙ ГІСТОРЫІ ДРУГОЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ

## ТЭГЕРАНСКАЯ СУСТРЭЧА

— Мы хочам, — сказаў прэзідэнт, — не толькі перасекчы Ла-Манш, але і праследаваць праціўніка ўглыб тэрыторыі. Між тым, гэта такая непрыемная палоска вады, якая выключае магчымасць пачаць экспедыцыю да першага мая. Таму план, складзены ў Квебеку, зыходзіў з таго, каб экспедыцыя праз Ла-Манш была ажыццёўлена недзе ля першага мая 1944 года.

Спаслаўшыся на тое, што любая дэсантная аперацыя патрабуе спецыяльных суднаў, Рузвельт закрануў пытанне аб прыярытэце і чарговасці тых або іншых аперацый. Ён сказаў:

— Калі мы будзем праводзіць буйныя дэсантныя аперацыі ў Міжземным моры, дык экспедыцыю праз Ла-Манш, магчыма, давядзецца адкласці на два або тры месяцы. Таму мы хацелі б атрымаць параду ад нашых савецкіх калег па гэтаму пытанню, а таксама параду аб тым, як лепш выкарыстаць мора, улічваючы, што там у той жа час ёсць мала суднаў. Але мы не хочам адкладваць дату ўварвання праз Ла-Манш далей мая або чэрвеня. У той жа час ёсць многа месцаў, дзе маглі б быць выкарыстаны англа-амерыканскія войскі. Іх можна выкарыстаць у Італіі, у раёне Адрыятычнага мора, у раёне Эгейскага мора, нарэшце для дапамогі Турцыі, калі яна ўступіць у вайну. Усё гэта мы павінны тут вырашыць. Мы вельмі хацелі б дапамагчы Савецкаму Саюзу і адцягнуць частку германскіх войск з савецкага фронту. Мы хацелі атрымаць ад нашых савецкіх сяброў параду аб тым, якім чынам мы маглі б лепш за ўсё абегчыць іх становішча.

Закончыўшы сваё выступленне, Рузвельт спытаў, ці жадае Чэрчыль дадаць што-небудзь да сказанага.

Чэрчыль крыху памаўчаў, паварушыў губамі і, павольна вымаўляючы словы, адказаў:

— Я хацеў бы прасіць дазволу адкласці маё выступленне і выказацца пасля маршала Сталіна. У той жа час я хачу сказаць, што ў прынцыпе згодзен з прэзідэнтам Рузвельтам.

Відаць, англійскі прэм'ер, адмовіўшыся выкласці сваю пазіцыю, якая значна адрознівалася ад пункту гледжання амерыканскага прэзідэнта, хацеў праверыць савецкіх прадстаўнікоў, каб затым выкласці адпаведную аргументацыю. Сталін заўважыў манеўр Чэрчыля. Гаворачы аб другім фронце, ён даў зразумець, што савецкі бок разлічвае на высадку саюзнікаў іменна ў Паўночнай Францыі, пры чым без далейшых адтэрміновак, бо толькі такая аперацыя можа аблегчыць становішча на савецкім фронце.

— Магчыма, я памыляюся, — сказаў Сталін, — але мы, рускія, лічылі, што італьянскі тэатр важны толькі ў тых адносінах, каб забяспечыць свабоднае плаванне суднаў саюзнікаў у Міжземным моры. Толькі ў гэтым сэнсе важны італьянскі тэатр ваенных дзеянняў. Мы так думалі і працягваем думаць. Што датычыць таго, каб з Італіі пачаць наступленне непасрэдна на Германію, дык мы, рускія, лічым, што для такіх мэт італьянскі тэатр не падыходзіць...

Чэрчыль, звяртаючыся да савецкай дэлегацыі, спытаў:

— Ці маюць цікавасць для савецкага ўрада нашы дзеянні ва ўсходняй частцы Міжземнага

# ТРЫБУНА чытачоў

## ЧАГО ЖАДАЮЦЬ СЯЛЯНЕ

Вельмі часта бываюць розныя затраты ў сялян (прадабіцце, знішчэнні ад ветру і г.д.), кошты якіх пасля адпаведнай ацэнкі ў значнай меры пакрывае ПЗУ. Аднак за кожную „шкоду", як гэта завецца ў ПЗУ, грошы высылаюць у СОП. Сяляне вельмі часта наракаюць, што мусяць яны за гэтымі грашыма ехаць часта 15 км. Часта бывае малая сума, а вялікі клопат, бо вымушан селянін марнаваць рабочы дзень, які часта даражэйшы ад тых грошай. Многія вельмі рады былі б, каб гэтыя грошы ПЗУ высылала на адрас селяніна. Прыкладам можа паслужыць Мітрафан Бэкіш з Патокі Беластоцкага павета. Яму 70 год. Атрымаў ён ад ПЗУ каля 150 зл. Сам даехаць не зможа. Па гэтыя грошы ездзіў зяць з яго дакументамі — беспаспяхова. Жонка — таксама. Ва ўстанове заўсёды даюць правільнае пытанне „ўпаважненне маеш?"

А каб мець гэтую запіску, трэба ехаць у ГРН (адлегласць 7 км), бо толькі там яго пацвердзяць, па заплаце 10 зл. Колькі ж клопатаў...

**Мікола Краўчук**
**Патока**

## З ЮШКАВАГА ГРУДА

У Юшкавым Грудзе (Беластоцкі павет) будуецца дом для настаўнікаў. Пры пабудове яго шмат папрацавалі таксама вучні мясцовай школы.

*

Нядаўна грамадская бібліятэка ў Юшкавым Грудзе закупіла каля 300 новых кніжак на суму 7 тысяч злотых. Неўзабаве знойдуцца яны ў руках чытачоў. Варта дадаць, што будуць мець яны выбар, паколькі бібліятэка налічвае 8.200 экземпляраў кніжак.

**Ц. Я.**

**У Бельскім ліцэі**

## „ТВОЙ СУЧАСНІК"

5-га лістапада вучні і настаўнікі беларускага ліцэя ў Бельску Падляшскім калектыўна пайшлі на савецкі фільм „Твой сучаснік". Усім ён вельмі спадабаўся.

## СПОРТ У ШКОЛЕ

6-га лістапада ў нашым ліцэі адбыўся „апэль", прысвечаны спорту. Кіраваў ім настаўнік Аляксей Карпюк, які гаварыў аб значэнні спорту. Некалькі дзён перад 6.XI. адбыліся міжшкольныя спартыўныя спаборніцтвы, на якіх вучні ліцэя даволі добра ігралі. Падчас гэтага „апэлю" некаторыя нашыя спартсмены атрымалі дыпломы і рэчавыя ўзнагароды.

## КАСТРЫЧНІЦКАЯ ГАДАВІНА

6-га лістапада, пасля заняткаў, вучні і настаўнікі ліцэя сабраліся ў спартыўнай зале на акадэмію. Адкрыў яе дырэктар Мікалай Гайдук, а з дакладам аб значэнні Кастрычніцкай рэвалюцыі выступіў Уладзімір Магрук. У мастацкай частцы акадэміі выступілі вучні II і III класаў пад кіраўніцтвам настаўніцы Ліды Гайдук.

**Вера Ахрымюк**
**вучаніца IV класа**

## КЛАСНЫ ГУРТОК ЗМВ

2-га лістапада ў Гайнаўскім беларускім ліцэі адбыўся сход гуртка ЗМВ II класа А. У ім прыняў удзел настаўнік Аляксей Сяльвесюк. Удзельнікі сходу абмеркавалі працу гуртка ЗМВ за мінулы год.

**Марыся Аніпчук**
**Гайнаўскі беларускі ліцэй**

## РАСТУЦЬ РАДЫ ЗСЛь

Аб'яднанае Людовае странніцтва (ЗСЛь) на Сакольшчыне з кожным годам паляпшае метады працы і дабіваецца большых поспехаў. Значныя поспехі ЗСЛь мае там у павелічэнні сваіх радоў. У кастрычніку ў вёсках Гарчакі і Сякерка арганізаваліся новыя гурткі ЗСЛь, якія апрацавалі даволі цікавы план працы. (мм)

## У НОВЫМ ВОСТРАВЕ

Напэўна, няма аніводнай такой вёскі з такою вуліцаю, як у Новым Востраве на Сакольшчыне. Праз яе цяжка праехаць — столькі там балота. А ўжо прайсці пяшком, дык так замажаш абутак, што цяжка яго адчысціць. А каб пабудаваць брук вёсцы, аб гэтым ніхто не думае. ГРН у Гуранах таксама не мабілізуе сялян да таго, каб выбрукаваць вуліцу. (хх)




## ДАРАГОЕ СЭРЦАЙКА!

Вядома, што аб прыгажосці дзяўчыны сведчаць яе валасы. Маем мы з імі вялікі клопат: яны непрыгожыя, выпадаюць, ломяцца і не маюць прыгожага натуральнага полыску, ані колеру. Парай нам, што рабіць.

**Дзяўчаты з Гайнаўшчыны**

Адказ: Прычыны гэтага могуць быць вельмі розныя, а нават і неадпаведнае харчаванне. У драгерыях і перфюмерыях можна дастаць усялякага роду воды, крэмы, аджыўкі да тлустых, сухіх і нармальных валос. Дакладней мы ўжо пісалі ў „Ніве" ў кутку „Сардэчныя тайны" аб гэтай справе пару тыдняў таму назад. Аднак раю вам перш за ўсё пайсці да лекара — дэрматолага (у сваім павеце), які ўстановіць хваробу валос і прыпіша адпаведнае лячэнне.

10 год таму назад мы прыехалі з Савецкага Саюза ў Польшчу. У гэтым годзе мне споўніцца 18 год і трэба будзе вырабіць пашпарт. Мае бацькі і брат маюць польскія пашпарты, а я хачу вырабіць савецкі пашпарт.

Парай, як мне гэта зрабіць.

**Вася з Бельшчыны**

Адказ: У гэтай справе ты звярніся ў Павятовую камэнду міліцыі ў Бельску, дзе атрымаеш дакладны адказ.

**Сэрцайка**

## НЕДАХОП КАВАЛЁЎ

Праца каваля нялёгкая, гэта праўда. Тут патрэбна фізічная сіла, тут неабходна паднімаць цяжкі молат і каваць жалеза. Але нягледзячы на гэта, кавальская праца паплатная. Цяпер на вёсках найбольш грошы маюць кавалі. Ім прыходзіцца многа працаваць, таму што людзі просяць часта, рана паднімаюць са сну і доўга не выпускаюць з кузні, бо прагнуць, каб каваль выканаў ім тую ці іншую работу.

Уладзімір Шымановіч з Паўночнага Вастрава, што на Сакольшчыне, ад усходу сонца да заходу прабывае ў кузні і ніяк не можа перарабіць усіх кавальскіх прац, якіх штодзённа нямала дастаўляюць аднавяскоўцы і жыхары суседніх вёсак. Вёска Паўночны Востраў даволі вялікая. І ў гэтай вёсцы ён — адзін каваль. У суседніх вёсках няма кавалёў. І як ні дзіўна, няма ахвотных навучыцца гэтай прафесіі. Здавалася б, што ў Уладзіміра Шымановіча павінна быць прынамсі некалькі вучняў. Але іх няма. А трэба ведаць, што Уладзімір Шымановіч з'яўляецца майстрам і мае права навучаць жадаючых кавальскай справе. (сс)

## СПРАВАЗДАЧНА-ВЫБАРЧЫ СХОД ПАРП

8 лістапада 1970 года адбыўся грамадскі сход членаў і кандыдатаў ПАРП у Трасцянцы Гайнаўскага павета. Сход правёў старшыня ПРН у Гайнаўцы тав. Мікалай Самоцік.

Справаздачу за два гады працы грамадскага камітэта чытаў сакратар камітэта Іван Тапалянскі. Грамадскі камітэт ПАРП працаваў, і ў часе гэтай кадэнцыі шмат усяго змянілася ў грамадзе Трасцянка. За апошнія два гады прыбыло ў рады партыі многа (30%) членаў і кандыдатаў. Грамадскі камітэт увёў ва ўсіх ПОП сшыткі, у якіх рэгіструюцца прапановы і скаргі жыхароў вёсак. Гэта дало добрыя вынікі. Праўда, некаторыя прадпрыемствы і ўстановы не спяшаюцца з вырашэннем тых ці іншых спраў. Выступаючы ў дыскусіі, таварышы многа гаварылі аб паляпшэнні працы ПОП, аб апецы над маладзёжнымі арганізацыямі, аб паляпшэнні працы сельскагаспадарчых гурткоў і пажарных каманд, аб пабудове водных басейнаў, аб працы членаў ЗСЛь. Гаварылі аб хутчэйшай будове дарогі Трасцянка — Белкі — Агароднікі. Дыскусію падсумаваў старшыня прэзідыума ПРН у Гайнаўцы тав. Мікалай Самоцік.

Члены ПАРП выбралі новыя ўлады грамадскага камітэта: I сакратар — Іван Тамашук, 2-гі сакратар — Іван Сцепанюк і сакратар прапаганды — Канстанцін Юшкевіч.

**М. Лук'янюк**
**вёска Белкі**



## НАСТАЎНІЦА З ГРУЗКІ

Ніна Манцюк настаўніцкую працу пачала ў 1966 годзе ў чатырохкласнай школе ў Грузцы на Гайнаўшчыне. З яе прыходам у вёску ажывілася культурна-асветная дзейнасць. Яна была арганізатарам гуртка БГКТ. Дзякуючы настаўніцы ў школе выступіла ўжо 4 разы эстрада ГП БГКТ „Лявоніха". Ніна Манцюк выкарыстоўвае ўсе сходы, на якіх даказвае неабходнасць пабудовы школы (зараз школа знаходзіцца ў прыватным будынку). І гэта справа ўжо вырашаецца. Школа будзе тут пабудавана, таму жыхары вёскі абавязваюцца ўнесці вялікі ўклад як грашовы, так і ў выглядзе грамадскага чыну. Ужо сяляне сабралі на будову школы 18 тыс. зл. Школьнікі таксама хочуць дапамагчы і сабралі яны ўжо шмат каменняў. Будова школы пачнецца вясною.

**Тэкст і фота Віктар Бура**
**Гайнаўка**

## КУРС РАХУНКАВОДАЎ

У снежні гэтага года будзе праведзены дзяржаўны ўсеагульны перапіс. Да яго ўжо рыхтуюцца рахункаводы. У Мілейчыцах адбываецца для іх спецыяльны курс. Арганізаваны ён для грамад Мілейчыцы і Нурэц (Сямяціцкі павет). (сс)

## МІНЕРАЛЬНЫЯ ЎГНАЕННІ

З кожным годам сяляне высяваюць на свае палі ўсё больш мінеральных угнаенняў. У грамадзе Юшкаў Груд найбольш мінеральных угнаенняў закупілі сяляне з Бяндзюгі, Юшкавага Груда, Ціванюкоў і Сушчы. Усе яны перавыканалі план абавязковых закупаў. (яя)

---

мора, якія, магчыма, выклікалі б некаторую адтэрміноўку аперацыі праз Ла-Манш?

І паспешліва дадаў:

— У гэтым пытанні мы пакуль яшчэ не маем пэўнага рашэння, і мы прыбылі сюды для таго, каб прыняць яго...

— Ёсць яшчэ адна магчымасць, — умяшаўся Рузвельт. — Можна было б высадзіць дэсант у раёне паўночнай часткі Адрыятычнага мора, у той час як савецкія арміі падыйшлі б да Адэсы.

— Калі мы возьмем Рым і блакіруем Германію з поўдня, — працягваў англійскі прэм'ер, — дык далей мы можам перайсці да аперацыі ў Заходняй і Паўднёвай Францыі, а таксама аказваць дапамогу партызанскім арміям. Гэтыя аперацыі яшчэ не распрацаваны ў дэталях. Можна было б стварыць камісію, якая вывучыла б гэта пытанне і склала б падрабязны дакумент...

Сталін, які ўважліва слухаў меркаванні Чэрчыля, папрасіў слова.

— У мяне некалькі пытанняў, — сказаў ён. — Я зразумеў, што ёсць 35 дывізій для аперацыі па ўварванню ў Паўночную Францыю?

— Так, гэта правільна, — адказаў Чэрчыль.

— Да пачатку аперацый па ўварванню ў Паўночную Францыю, — працягваў Сталін, — мяркуецца правесці аперацыю ў італьянскім тэатры для захопу Рыма, пасля чаго ў Італіі мяркуецца перайсці да абароны?

Чэрчыль сцвярджальна кіўнуў.

Сталін працягваў задаваць пытанні:

— Я зразумеў, што, акрамя таго, мяркуюцца яшчэ тры аперацыі, адна з якіх будзе заключацца ў высадцы ў раёне Адрыятычнага мора. Правільна я разумею?

— Ажыццяўленне гэтых аперацый, магчыма, будзе карыснае для рускіх, — сказаў Чэрчыль. У яго тоне гучала расчараванне. Затым ён пачаў тлумачыць, што найвялікшую праблему складае пытанне аб перакідцы неабходных сіл. Аперацыя „Оверлард" будзе пачата 35 дывізіямі, затым колькасць войск павінна павялічыцца за лік дывізій, якія будуць перакідвацца са Злучаных Штатаў, прычым колькасць іх дасягне 50—60. Брытанскія і амерыканскія паветраныя сілы, якія знаходзяцца ў Англіі, будуць у бліжэйшыя 6 месяцаў падвоены і патроены. Акрамя таго, ужо цяпер беспярэрынна праводзіцца работа па збіранню сіл у Англіі.

Сталін зноў спытаў:

— Ці правільна я зразумеў, што, акрамя аперацыі па аваладанню Рымам, намячаецца правесці яшчэ адну аперацыю ў раёне Адрыятычнага мора, а таксама аперацыю ў паўднёвай частцы Францыі?

Ухіліўшыся ад прамога адказу, англійскі прэм'ер зазначыў, што ў момант пачатку аперацыі „Оверлард" мяркуецца зрабіць атаку на Паўднёвую Францыю. Для гэтага могуць быць вызвалены некаторыя сілы ў Італіі, але гэта аперацыя яшчэ не распрацавана ў дэталях. Што датычыць планаў высадкі ў раёне Адрыятыкі, дык Чэрчыль наогул абышоў гэта пытанне.

Сталін уважліва паглядзеў на яго і панурым тонам сказаў:

— На маю думку, было б лепш, каб за базу ўсіх аперацый у 1944 годзе была ўзята аперацыя „Оверлард". Калі б адначасова з гэтай аперацыяй быў арганізаван дэсант у Паўднёвай Францыі, дык абедзве групы войск маглі б злучыцца ў Францыі. Таму было б добра, калі б мелі месца дзве аперацыі: аперацыя „Оверлард" і ў якасці падтрымкі гэтай аперацыі — высадка ў Паўднёвай Францыі. У той жа час аперацыя ў раёне Рыма была б адцягваючай. Ажыццяўляючы высадку ў Францыі з поўначы і поўдня, пры злучэнні гэтых сіл можна было б дабіцца іх нарошчвання. Не варта забываць, што іменна Францыя з'яўляецца слабым месцам Германіі. (ПРАЦЯГ БУДЗЕ)

---

# КІНО

## ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

### КЛЯШЧЭЛІ

„Hatari" (USA), 1—2. „Królowa stacji benzynowej" (radz.) 3—4. „Powrót rewolwerowca" (USA), 5—6.

### ДУБІНЫ

„Most" (jugosł.), „Na miłość nigdy nie jest zapóźno" (jugosł.), 5—6.

### НАРАЎКА

„Dziewczyna z walizką" (włoski), „Francja naprzód" (franc.), 2—6.

### НАРВА

„Marynarz Czyżyk" (radz.), „Mściciel z przeklętej góry" (jugosł.), 2—6.

### ЧЫЖЫ

„Ruchome piaski" (polski), „Jezioro starej sowy" (NRD), 2—6.

### ДУБІЧЫ ЦАРКОЎНЫЯ

„Lew pręży się do skoku" (węgierski), „Przygody Tomka Sayera" (rumuński), 2—6.

### АРЭШКАВА

Znicz olimpijski" (polski), „2 mamy i 2 ojców" (jugosł.), 2—6.

## БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

### БОЦЬКІ

„Każdemu swoje" (włoski), „Paragon gola" (polski), 2—6.

### ОРЛЯ

„Czekam w Monte Carlo" (polski), „Czarny wiatr" (meksykańs.), 2—6.

### РАЙСК

„Dziewszyna na rozdrożu" (bułg.), „Słuchajcie bicia dzwonów" (jugosł.), 2—6.

## БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

### МІХАЛОВА

„Lenin — karty życiorysu" (radz.) 1—2. „Dwaj panowie bez parasola" (rumuński), 3—4. „Wkrótce nadejdzie wiosna" (radz.)

## САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

### КРЫНКІ

„Grymasy" (węgierski), 1—2. „Dywersanci" (jugosł.). 3—4. „Rozbójnicy sycylijscy" (włoski), 5—6.
5—6.

### ЯНАЎ

„Powrót rewolwerowca" (USA), 2—6.

### ШУДЗЯЛАВА

„Nie ma powrotu Johny" (polski), „Spotkałem nawet szczęśliwych cyganów" (jugosł.), 2—6.

## СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

### НУРЭЦ

„Zdobywcy nieba" (radz.), 1—2. „Dwaj panowie bez parasola" (rumuński) 3—4. „Wkrótce nadejdzie wiosna" (radz.), 5—6.

„Falstaff" (hiszpański), 1—2. „Bomba Asa kier" (radz.), 3—4. „Album polski" (polski), 5—6.

### МІЛЕЙЧЫЦЫ

„Hatari" (USA), 1—2. „I znów z tobą" (węgierski), 3—4. „Album polski" (polski), 5—6.

## ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

### СУХАВОЛЯ

„Che /opowieść o Guevarze" (włoski), „Bumerang" (polski), 2—6.

### НОВЫ ДВОР

„Czworokąt śmierci" (czeski), „Sąsiedzi" (polski), 5—6.

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa Krakowskie Przedmieście 7 Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

BZGraf. Nakład 7107 W-4

